Ostrogorski Centre BelarusDigest




# Элементы нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы і палітыцы нацыянальнай бяспекі

Сяргей Богдан
Гумер Ісаеў

Аналітычны дакумент 7 | 25 кастрычніка 2016

Фота: УНІАН

Мінск-Лондан
2016

# Змест

## Словы падзякі

Дадзенае даследаванне было зробленае дзякуючы гранту ад Фонду Мот (Mott Foundation), які быў рэалізаваны супольна Фондам Понціс (Pontis Foundation) і Цэнтрам Астрагорскага. Аўтары выказваюць удзячнасць Яраславу Крывому за яго заўвагі ды прапановы.

# Кароткі агляд

- Беларусь абвесціла пра сваё імкненне дасягнуць нейтралітэту ў Канстытуцыі 1994 года. Аднак беларускія палітыкі былі мала зацікаўленыя ў абмеркаванні і вызначэнні шляхоў яго дасягнення. На працягу многіх гадоў беларускі нейтралітэт заставаўся фікцыяй, бо Мінск быў адданым саюзнікам Расіі.

- Палітыка, што праводзілася беларускім урадам з канца 2000-х гг., прывяла да з’яўлення фактычнага нейтралітэту. Ён з’явіўся ў выніку адмысловых рашэнняў беларускага кіраўніцтва адносна галоўных пытанняў знешняй палітыкі ды палітыкі нацыянальнай бяспекі краіны. Мінск стараўся не прымаць бок Расіі ў яе напорыстай палітыцы ў краінах былога Савецкага Саюза і на Блізкім Усходзе, развіваў адносіны з апанентамі Расіі і выступаў супраць перакройвання межаў былых краінаў СССР. Адначасова з гэтым беларускі ўрад пераглядаў палітыку нацыянальнай бяспекі краіны, абмяжоўваў вайсковую прысутнасць Расіі ды павялічваў аўтаномнасць беларускіх узброеных сілаў і сілавых структураў.

- Некаторыя расійскія эксперты абвінавачвалі Мінск у адкрытым пераходзе на бок Захаду. Аднак Мінск пазбягаў канфрантацыі з Расіяй ды супрацьпастаўлення сябе ёй. Таму для азначэння палітыкі, якую цяпер праводзяць беларускія ўлады, больш пасуе тэрмін нейтралітэт. Гэты нейтралітэт з’яўляецца хутчэй адмысловым механізмам выжывання беларускай дзяржавы, што сутыкаецца з усё больш рэвізіяніцскай палітыкай Расіі, чым канцэптуальна распрацаванай стратэгіяй або афіцыйна абвешчаным прынцыпам урадавай палітыкі.

- Дадзенае даследаванне разглядае тры наступныя пытанні. Па-першае, аўтары даследуюць вытокі і развіццё фактычнага беларускага нейтралітэту. Па-другое, у даследаванні вызначаюцца асноўныя элементы і праявы нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы і палітыцы нацыянальнай бяспекі. Адначасова з гэтым аўтары параўноўваюць дадзеную мадэль нейтралітэту з іншымі, перш за ўсё з фінскай мадэллю (пасля Другой сусветнай вайны) як найбольш адпаведнай беларускай у тым, што датычыць кантэксту і асноўных рысаў. Па-трэцяе, даследаванне ацэньвае важнасць нейтралітэту для кансалідацыі беларускай дзяржаўнасці, а таксама перспектывы ды праблемы яго рэалізацыі.

# 1. Уводзіны

Першыя выразныя рашэнні, заснаваныя на прынцыпе нейтралітэту, былі прынятыя ў беларускай знешняй палітыцы і палітыцы нацыянальнай бяспекі прыблізна ў 2006 годзе. Аднак сама тэндэнцыя да руху ў напрамку нейтралітэту ўзмацнялася цягам усяго мінулага дзесяцігоддзя. На працягу доўгага часу элементы нейтралітэту памылкова трактаваліся як апартуністычны рух Мінска туды-сюды паміж Масквой і Захадам альбо як тактычнае балансаванне паміж рознымі кірункамі беларускай замежнай палітыкі. Але ў кожным разе да сярэдзіны 2010-х гадоў элементы нейтралітэту сталі стабільным кампанентам знешняй палітыкі і палітыкі нацыянальнай бяспекі Беларусі.

У выніку паўстала пытанне пра мэтазгоднасць выбару нейтралітэту як пэўнай мадэлі будучага развіцця беларускай дзяржавы. Для мэтаў дадзенага даследавання азначэнне нейтралітэту абапіраецца на сучасную палітычную практыку, а не фармальныя юрыдычныя канцэпцыі і нарматыўныя тэорыі. Адпаведна пад нейтралітэтам маюцца на ўвазе палітыка і палітычныя захады, накіраваныя на захаванне пэўнай дыстанцыі адносна палітычных і ваенных блокаў, а таксама бакоў у міжнародных канфліктах, хаця гэтая дыстанцыя залежыць ад канкрэтных абставінаў. Пад такой дыстанцыяй можа ў прыватнасці мецца на ўвазе і фармальны ўдзел у палітычных ці ваенных саюзах альбо далучэнне да двухбаковых пагадненняў у галіне бяспекі пры ўмове, што яны не ўплываюць крытычным чынам на міжнароднае становішча краіны.

Дадзенае даследаванне накіраванае на вывучэнне элементаў нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы і палітыцы нацыянальнай бяспекі ў мінулыя гады. Ці з'яўляецца нейтралітэт відавочнай, але не абмяркоўванай адкрыта з'явай у беларускай палітыцы, асновай для пабудовы далейшай палітыкі беларускай дзяржавы альбо ён уяўляе сабой кароткатэрміновае спалучэнне супярэчлівых з'яваў, якія лепш апісваюцца іншымі тэрмінамі, ніяк не звязанымі з паняткам нейтралітэту?

Зважаючы на надзвычай цеснае перапляценне беларуска-расійскіх адносінаў і іх ключавую ролю ва ўсёй беларускай вонкавай палітыцы, дадзеная праца засяроджваецца на стасунках паміж Мінскам і Масквой як галоўнай кропцы адліку ў даследаванні. Усе спробы Беларусі сцвердзіць свой нейтралітэт нязменна пачынаюцца з адпаведнага дапасавання беларуска-расійскіх адносінаў.

Каб адказаць на вышэй згаданыя пытанні, мы разглядаем тыя пытанні, у адносінах да якіх беларуская пазіцыя адрознівалася ад расійскай, але Беларусь не станавілася на бок апанентаў Расіі. У рамках дадзенага даследавання падыходы да гэтых праблемаў разглядаюцца ў шырэйшым міжнародным кантэксце з ацэнкай іх апартуністычнасці або прынцыповасці.

Правядзенне аналізу верагодных элементаў нейтралітэту ў палітыцы нацыянальнай бяспекі Беларусі аказалася больш складанай справай. Аднак нават ва ўмовах такога абмежаванага даследавання ўдалося высветліць, ці прысутнічаюць элементы нейтралітэту толькі ў знешняй палітыцы беларускага ўрада або яны могуць быць выяўленыя і ў іншых палітычных сферах.

Даследаванне заканчваецца аглядам перспектыў беларускага нейтралітэту, які зараз знаходзіцца на стадыі станаўлення, а таксама чыннікаў, якія вызначаць поспех ці правал такой мадэлі. Нягледзячы на тое, што сучасная Беларусь – далёка не лепшае месца для ўкаранення прынцыпаў нейтралітэту, гэтая мадэль ёсць адным з тых нешматлікіх варыянтаў – калі не адзіным магчымым, – які могуць забяспечыць выжыванне і развіццё беларускай дзяржаўнасці, якая была б жыццяздольнай у палітычным, эканамічным і ваенным дачыненнях у сучасных умовах.

# 2. Беларусі неабходна пабудаваць сваю мадэль нейтралітэту

У дадзеным раздзеле разглядаюцца асноўныя прынцыпы канцэпцыі нейтралітэту згодна з практыкай розных краін. Для вызначэння міжнароднага статусу дзяржавы, што не бярэ ўдзелу ў войнах паміж іншымі краінамі і не з'яўляецца часткай ваенных блокаў у мірны час, звычайна выкарыстоўваюцца тэрміны "недалучэнне" і "нейтралітэт".




Нейтральныя краіны свету. Выява: Вікіпедыя

Статус нейтральнай дзяржавы можа быць абумоўлены ўнутранымі і знешнімі чыннікамі і залежыць ад сістэмы міжнародных адносін. Напрыклад, у другой палове XX стагоддзя краіны звярталіся да статусу нейтралітэту, каб захаваць свой суверэнітэт ва ўмовах двупалярнай сістэмы міжнародных адносін. Рашэнне аб далучэнні ці недалучэнні да ваенных блокаў ды арганізацый прымалася ў залежнасці ад розных абставінаў.

Для мэтаў дадзенага даследавання будуць разгледжаныя наступныя аспекты з'явы нейтралітэту:

***Пастаянны або часовы нейтралітэт***

Статус нейтралітэту можа быць пастаянным, г. зн. дзейным як і ў ваенны, так і ў мірны час. З нарматыўнага пункту гледжання, нейтральны статус падчас вайны значыць, што такая дзяржава не бярэ ўдзелу ў ваенных дзеяннях. Напрыклад, падчас Другой сусветнай вайны Швецыя і Турэччына захоўвалі нейтралітэт. Гэта не значыць, што нейтральная дзяржава не падтрымлівае адносінаў з ваюючымі бакамі, але гэтыя адносіны абмежаваныя прынцыпам непрыняцця боку ніводнага з удзельнікаў канфлікту. У мірны час нейтралітэт азначае непрынятце ўдзелу ў ваенных альянсах. Пастаянны нейтралітэт **можа лічыцца** доўгатэрміновай дзяржаўнай стратэгіяй. Для некаторых краін нейтралітэт зрабіўся складнікам нацыянальнай ідэнтычнасці (Швейцарыя, Туркменістан).

***Добраахвотны або ўзгоднены на міжнародным узроўні нейтралітэт***

У некаторых выпадках нейтралітэт можа быць зацверджаны свядомым рашэннем кіруючай эліты, як гэта здарылася ў Швецыі. У адрозненне ад Фінляндыі, Швейцарыі і Аўстрыі, нейтралітэт Швецыі не базуецца на міжнародных пагадненнях[1]. У выпадку Швецыі вялікую ролю грае такі чыннік, як геапалітыка. Швецыя, у адрозненне ад Швейцарыі і Аўстрыі, **не была акружаная** Вялікімі дзяржавамі і іх блізкімі саюзнікамі. Імперскае мінулае таксама адыграла значную ролю ва ўзнікненні шведскага нейтралітэту.

[1] Reiter, Erich and Gärtner, Heinz, 2001. *Small States and Alliances.* Berlin: Springer. P. 6.

Што да меншых краін, то яны могуць атрымаць статус нейтральных дзяржаў у выніку пагаднення паміж суседнімі краінамі або звышдзяржавамі, і іх нейтралітэт будзе звязаны з дамоўленасцямі па падтрыманні міжнароднай палітычнай раўнавагі. Так, напрыклад, нейтралітэт Люксембурга быў вынікам пагаднення паміж Вялікімі дзяржавамі Еўропы ў XIX стагоддзі. У той самы час нейтральны статус такіх дзяржаў, як Аўстрыя, Швейцарыя і Фінляндыя, рэгулюецца як міжнародным, так і канстытуцыйным правам гэтых краін.

За выключэннем Туркменістана, амаль ва ўсіх астатніх постсавецкіх краінах нейтралітэт або пацярпеў няўдачу, або быў выкарыстаны як інструмент для дасягнення іншых палітычных мэтаў

Падчас Халоднай вайны ЗША і СССР заключылі пагадненні аб устанаўленні нейтральнага статусу для некаторых краін. У 1955 годзе нейтральны статус Аўстрыі быў установлены Маскоўскім мемарандумам[2], што было звязана з рашэннем СССР палепшыць свае адносіны з Захадам. Іншы падобны выпадак – нейтралітэт Фінляндыі. Фінскі нейтралітэт, як і аўстрыйскі, – гэта прыклад нейтралітэту, што быў навязаны звонку, зноў жа Савецкім Саюзам.

Прыкладам пагаднення паміж звышдзяржавамі з'яўляецца нейтральны статус Лаоса. Пагадненне аб прызнанні Лаоса нейтральнай дзяржавай было падпісанае ў ліпені 1962 года падчас 14-й канферэнцыі ААН у Жэневе[3]. Тым не менш, дэкларацыя аб нейтралітэце не зберагла краіну ад замежнага ўмяшання з-за змагання паміж звышдзяржавамі і іх прадстаўнікамі ў гэтым рэгіёне. Нейтралітэт Лаоса, усталяваны Злучанымі Штатамі ды Савецкім Саюзам, не спрацаваў, бо абодва бакі актыўна злоўжывалі гэтым нейтралітэтам.

***Дзейсны (фактычны) або абвешчаны нейтралітэт***

Нейтралітэт можа быць абвешчаны ў асноўных дзяржаўных дакументах. Такія краіны, як Аўстрыя, Швейцарыя, Ватыкан, Мальта, Туркменістан і Малдова, абвясцілі нейтралітэт у сваіх канстытуцыях. У Швецыі нейтральны статус не зафіксаваны ў Канстытуцыі і базуецца хутчэй на традыцыі, чым на нейкім дакуменце ці міжнароднай дамове.

У сучаснай гісторыі ёсць прыклады, калі нейтральны статус быў афіцыйна абвешчаны нейкай дзяржавай, але не быў рэалізаваны ў палітыцы. Гэта здаралася не толькі з-за няшчырых паводзінаў задзейнічаных асобаў, але таксама з-за тагачасных геапалітычных абставінаў, што перашкаджалі ім падтрымліваць нейтралітэт. Наўзорны прыклад – Малдова. У Канстытуцыі гэтай краіны ёсць палажэнне аб нейтралітэце[4], але, нягледзячы на гэта, Малдова мае Індывідуальны план партнёрства з АПАД (НАТО) і імкнецца наблізіцца да заходніх стандартаў ды інстытутаў[5].

***Нейтралітэт як патаемны шлях да незалежнасці, змены міжнароднага статусу або мэтаў знешняй палітыкі краіны***

Нейтральны статус пасля дасягнення незалежнасці можа быць формай паслаблення ды знішчэння патранажу і залежнасці ад былой метраполіі. Прыклады такога нейтралітэту можна знайсці ў посткаланіяльных ці постімперскіх сістэмах. Пасля дасягнення незалежнасці некаторыя постсавецкія краіны абвясцілі нейтралітэт. Найбольш вядомым прыкладам з'яўляецца нейтральны статус Туркменістана. Як нейтральная дзяржава Туркменістан "не ўдзельнічае ў ваенных

[2] Карнер, Ш., Штельцль-Маркс, Б., и Чубарьян, А. (ред), 2005. Московский меморандум о результатах переговоров между австрийской правительственной делегацией и правительством СССР от 15 апреля 1955 г. Красная Армия в Австрии. Советская оккупация 1945–1955. Документы. Грац-Вена-Мюнхен. С. 824–826

[3] No. 6564. Declaration on the Neutrality of Laos. Signed at Geneva on 23 July 1962, 1963. *United Nations Treaty Series,* https://treaties.un.org/doc/Publication/UNTS/Volume%20456/volume-456-I-6564-English.pdf

[4] Constitution of the Republic of Moldova. Article 11. Republic of Moldova – a neutral State, http://www.presedinte.md/eng/titlul1

[5] NATO relations with Moldova, 07 April 2016, http://www.nato.int/cps/sk/natohq/topics_49727.htm

блоках і альянсах, забараняе стварэнне вайсковых базаў на сваёй тэрыторыі або яе выкарыстанне іншымі краінамі для ваенных мэтаў”[6].

Тым не менш, за выключэннем Туркменістана, амаль ва ўсіх астатніх постсавецкіх краінах нейтралітэт або пацярпеў няўдачу, або быў выкарыстаны як інструмент для дасягнення іншых палітычных мэтаў, або і тое, і другое. Гэта пачалося з першых дзён распаду Савецкага Саюза, калі лозунгі нейтралітэту выкарыстоўваліся рухамі, якія пазней падтрымлівалі далучэнне новых незалежных краін да АПАД (НАТО).

Напрыклад, літоўскі палітычны рух “Саюдзіс” яшчэ ў 1989 годзе апублікаваў палітычную праграму, што заклікала да стварэння “нейтральнай, незалежнай і дэмілітарызаванай Літвы”[7]. Аднак пасля дасягнення незалежнасці Літва ніколі не разглядала опцыю нейтралітэту. З другога боку, некаторыя сегменты ўкраінскай эліты, магчыма, шчыра спрабавалі зрабіць сваю краіну нейтральнай, і апошняя такая спроба была зробленая ў 2010 годзе, калі Ўкраіна абвясціла пра свой статус недалучэння. Аднак у 2014 годзе гэтае рашэнне было адмененае. Украіна мае немалыя памеры, але знаходзіцца паміж Расіяй і АПАД (НАТО). Яна не здолела захаваць нейтралітэт у асноўным з-за ўнутраных чыннікаў – адсутнасці нацыянальнага кансэнсусу па гэтым пытанні.

Увогуле, наўрад ці магчыма даць універсальнае вызначэнне паняцця “нейтралітэт”, а таксама даць такі прыклад нейтралітэту ў сучаснай міжнароднай палітыцы, які можна было б назваць класічным ці ўніверсальным. Усе вышэйзгаданыя выпадкі нейтралітэту з’яўляюцца адзінымі ў сваім родзе, *sui generis*: яны маюць унікальны характар і павінны разглядацца як вынік асаблівых унутраных і знешніх палітычных абставінаў.

# 3. Элементы нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы

Нейтралітэт датычыць перш за ўсё знешняй палітыкі краіны. З часу дасягнення незалежнасці ў 1991 годзе беларускія ўлады рэгулярна згадваюць нейтралітэт як прынцып знешніх адносінаў краіны. Адначасова з гэтым існуе вельмі мала канцэптуальных тэкстаў і даследаванняў па гэтай праблеме, як палітычна і стратэгічна арыентаваных, так і тэарэтычных. На працягу многіх гадоў беларускія ўлады і праўладныя аналітыкі вызначалі нейтралітэт толькі праз нейкія агульныя заявы пра мір, бяз’ядзерны статус і беларускую трагедыю Другой сусветнай вайны.

У выніку гэтага канцэпцыя нейтралітэту на працягу многіх гадоў разглядалася хутчэй як дэкаратыўны элемент, моднае слова ў палітычнай рыторыцы беларускага ўрада. Яна не магла разглядацца ўсур’ёз і з-за гучнай рыторыкі аб’яднання Беларусі і Расіі. Да канца 2000-х гадоў “нейтралітэт” нагадваў ідэалагічную ляльку ў руках апартуністычнага кіраўніцтва Беларусі.

## 3.1. Без генеральнага плану: вытокі беларускага нейтралітэту ў 1990-х і 2000-х гадах

Канцэпцыя нейтралітэту з’явілася ў палітычнай дыскусіі падчас распаду Савецкага Саюза. У ліпені 1990 года нацыянал-дэмакратычная апазіцыя патрабавала “выразнага абвяшчэння” беларускага нейтралітэту, аднак гэтая прапанова не знайшла падтрымкі ў парламенце. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэ-

[6] B. Shikhmuradov. *Positive Neutrality as the Basis of Foreign Policy of Turkmenistan*, http://sam.gov.tr/wp-content/uploads/2012/01/BORIS-O.-SHIKHMURADOV.pdf

[7] Smith, Hedrick, 1991. *The New Russians*. New York: Avon Books. P. 357.

це, прынятая 27 ліпеня 1990 года, гаворыць толькі пра тое, што Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка імкнецца стаць нейтральнай бяз'ядзернай дзяржавай[8]. Дадзеная фармулёўка была паўтораная ў Артыкуле 18 Канстытуцыі Беларусі, прынятай у 1994 годзе.

Тым не менш, на працягу 1990-х і першай паловы 2000-х гадоў нейтралітэт заставаўся выключна дэкларатыўнай нормай беларускага канстытуцыйнага права. Нямногія палітыкі спрабавалі ўвесці яе ў дзеянне. Адной з такіх спробаў быў супраціў далучэнню да Ташкенцкай дамовы аб калектыўнай бяспецы, якая была заключаная некаторымі постсавецкімі краінамі ў траўні 1992 года. Супраціўляўся далучэнню да яе найперш тагачасны старшыня беларускага Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Ён здолеў адтэрмінаваць падпісанне Ташкенцкай дамовы на некалькі месяцаў.



Станіслаў Шушкевіч, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі ў 1991–1994 гг., быў супраць далучэння Беларусі да Ташкенцкай дамовы аб калектыўнай бяспецы. Фота: Спутнік, Дзмітрый Данской

Пасля таго, як у 1994 годзе прэзідэнтам быў абраны Аляксандр Лукашэнка, знешняя палітыка Беларусі суправаджалася гучнай рыторыкай беларуска-расійскай інтэграцыі. Па розных прычынах – і з-за ідэалагічных стэрэатыпаў, і з-за недахопаў навукова-даследчай базы ды аналітыкі ў Беларусі на той момант – інтэграцыйны курс Лукашэнкі ў 1990-х гадах інтэрпрэтаваўся часам передузята і памылкова. У той час большасць уплывовых асобаў разглядалі яго як сумесь радыкальнага збліжэння з Масквой і відавочнай адмовы ад любых прыкметаў нейтралітэту.

Абодва гэтыя меркаванні занадта спрашчаюць сітуацыю. Па-першае, зыходным пунктам, пунктам адліку для беларуска-расійскіх адносін у пачатку 1990-х гадоў было фактычнае існаванне Беларусі і Расіі як частак Савецкага Саюза. Сярод іншага, гэта азначала адсутнасць выразнага размежавання паміж дзвюма рэспублікамі-часткамі СССР у многіх сферах, а таксама адзіную знешнюю палітыку і палітыку нацыянальнай бяспекі, якія вызначаў саюзны ўрад у Маскве.

Такая сітуацыя ў многіх дачыненнях заставалася нязменнай і ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Беларусь і Расія па-ранейшаму суіснавалі як дзве часткі намінальна ўжо не адзінага, але фактычна яшчэ існага адзінага палітычнага, эканамічнага, вайсковага і культурнага цэлага былога Савецкага Саюза. Радыкальная рыторыка разрыву сувязяў з Расіяй заставалася ў Беларусі маргінальнай з'явай, якая не мела значнага ўплыву на прыняцце рашэнняў.

З-за гэтых абставінаў інтэграцыя 1990-х гадоў выглядае вельмі неадназначна, бо яна не наблізіла Беларусь да Расіі з пункту гледжання тагачаснай рэчаіснасці. Лукашэнка адмовіўся ад рыторыкі мінулага беларускага кіраўніцтва, абраўшы больш прарасійскі тон, але разам з тым надаў больш увагі (у параўнанні, напрыклад, з мінулымі дзеяннямі Кебіча) стварэнню паўнавартасных атрыбутаў і інстытутаў беларускай дзяржаўнасці, незалежных ад Расіі.

Сярод іх – органы нацыянальнай бяспекі, армія, фінансавая сістэма і многія іншыя інстытуты. Аднак сюды таксама адносіцца і мэта дасягнення статусу нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы. Беларусь скончыла вывад расійскіх войск, у тым ліку ракетных войск стратэгічнага прызначэння, са сваёй тэрыторыі. У прыватнасці, 27 лістапада 1996 года Расія вывела з Беларусі ўсю ядзерную зброю.

Вядома, можна разглядаць гэтыя дзеянні не толькі як крок на шляху да нейтралітэту, але і проста як выкананне мінулых дамоваў, якія не маглі быць змененыя без значных наступстваў у міжнародным маштабе. Але адначасова з гэтым

[8] Александр Курьянович. Принятие Декларации о государственном суверенитете: факты, цифры, цитаты, *Naviny.by*, 27 июля 2009 года, http://naviny.by/rubrics/politic/2009/07/27/ic_articles_112_163750/

у Мінска была іншая, больш выразная ініцыятыва ў гэтым напрамку: прапанова аб стварэнні бяз’ядзернай зоны ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе, якую Лукашэнка зноў высунуў у 1996 годзе[9]. У 1999 годзе ён пацвердзіў, што Беларусь не мае намеру зноў вяртаць ядзерную зброю. Заявы такога кшталту дэманстравалі незалежнае мысленне, бо яны разыходзіліся з планамі Расіі размясціць сваю ядзерную зброю на захад ад уласнай мяжы.


Расійская ядзерная зброя была вывезеная з Беларусі ў лістападзе 1996 г. Фота: Грамадская ўласнасць

Тым часам, у 1997 годзе Беларусь стала назіральнікам, а ў 1998 годзе – паўнавартасным сябрам Руху недалучэння. Вядома, Мінск быў найперш зацікаўлены ў пошуку новых замежных партнёраў праз гэтую арганізацыю, аднак Беларусь таксама актыўна ўдзельнічала ў яе працы.

У кожным разе, у тыя гады “адзіным сапраўдным партнёрам Беларусі была Расія”[10], таму што новай, незалежнай Беларусі, у якой усё яшчэ адсутнічалі развітыя механізмы і інстытуты вонкавых зносінаў, даводзілася сутыкацца з дадатковай ізаляцыяй на Захадзе, звязанай з канстытуцыйным рэферэндумам 1996 года. У такіх абставінах Мінск наўрад ці мог пабудаваць нейтралітэт, які быў бы больш чым сімвалічным. Тым не менш, ініцыятыва аб бяз’ядзернай зоне і ўдзел у Руху недалучэння даказваюць, што ідэя нейтралітэту сама па сабе існавала ў галовах беларускіх службовых асобаў.

Калі на пачатку 2000-х гадоў пачаліся сутыкненні паміж урадамі Лукашэнкі і Пуціна, гэта не было нечаканасцю або вынікам асабістых канфліктаў. Сутыкненне з Пуціным было лагічным працягам дэзынтэграцыі і стварэння ўласных асобных дзяржаўных інстытутаў у Беларусі і Расіі. Стварэнне асобных дзяржаўных інстытутаў прывяло да знікнення магчымасцяў для неафіцыйных адносін паміж дзяржаўнымі органамі дзвюх краін і павысіла верагоднасць канфліктаў.

Пры канцы 1990-х і на пачатку 2000-х гадоў Лукашэнка і яго ўрад паступова сфармулявалі сваё бачанне беларуска-расійскіх адносін і паставілі мэту стаць найбліжэйшым хаўруснікам Расіі. У чэрвені 2009 года Лукашэнка наўпрост сказаў пра гэта ў інтэрв’ю свайму старому расійскаму прыхільніку Аляксандру Праханаву: “Амерыканцы фінансуюць Ізраіль, даюць яму столькі крэдытаў, колькі ён можа ператравіць, а потым спісваюць іх. І яны цалкам утрымліваюць абарону Ізраіля. Давайце не літаральна, але канцэптуальна скарыстаемся іх досведам [*у беларуска-расійскіх адносінах*]. Мы ж значым для вас больш, чым Ізраіль для Амерыкі”[11]. Аднак гэтая ідэя – быць своеасаблівым “расійскім Ізраілем” – ужо не была новай у 2009 годзе[12] і была адкінутая раней самім ходам гісторыі.


Прасоўваючы «ізраільскую мадэль» для беларуска-расійскіх адносін: Лукашэнка сустракаецца з радыкальным расійскім пісьменнікам Аляксандрам Праханавым. Фота: euroradio.fm

Гэта здарылася з-за прыходу да ўлады новага расійскага лідара, Уладзіміра Пуціна, і ініцыяванай ім змены прыярытэтаў у расійскай знешняй палітыцы. Ён запусціў праграму аднаўлення ўплыву Расіі праз мадэрнізацыю, аб’яднанне з Захадам і адмаўленне ад імперскіх амбіцый. Ваяўнічая

[9] Снапковский, Владимир, 2000. Внешняя политика Республики Беларусь: Первые итоги первого десятилетия, *Белорусский журнал международного права и международных отношений*, №4, http://evolutio.info/content/view/386Itemid=51/

[10] Юрий Кожуро. *Беларусь и Движение неприсоединения*, 10 февраля 2004 года, http://nmnby.eu/news/analytics/91.html

[11] Так говорит Лукашенко, *Завтра*, №24 (812), 10 июня 2009 года, http://zavtra.ru/content/view/2009-06-1011/

[12] Той факт, што “ізраільская мадэль” абмяркоўвалася, вынікае з папярэдняга артыкула самога Праханава, апублікаванага ў студзені 2007 г. Гл., Александр Проханов. «Беларусь, ты права!», *Завтра*, №03 (687), 17 января 2007 года, http://www.zavtra.ru/content/view/2007-01-1711/

рыторыка Пуціна супярэчыла апошняму кампаненту яго палітыкі. Але менавіта Пуцін закрыў усе расійскія вайсковыя базы за мяжой, спыніў падтрымку краінаў-апанентаў Захаду і нават адхіліў сумнеўныя праекты інтэграцыі з Беларуссю, якія дапамагалі яго папярэдніку Барысу Ельцыну здабываць прыхільнасць расійскіх выбарцаў, што адчувалі настальгію па савецкіх часах. У сярэдзіне 2000-х гадоў Мінск цалкам усвядоміў новую рэчаіснасць, створаную Пуціным.



Карціна Алеся Марачкіна, прысвечаная пратэстам пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 г.

З другога боку, беларускае кіраўніцтва зразумела, што статус расійскага сябра, які мела Беларусь, з пачатку 2000-х гадоў ператвараўся ва ўсё больш небяспечную ролю. Набліжэнне межаў АПАД (НАТО) і ЕС да межаў Беларусі, на якое Расія рэагавала збольшага толькі слоўнымі пратэстамі, пераканала Мінск, што часы змяніліся. Рэакцыя Захаду пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года таксама аказалася значна больш жорсткай, чым у 2001 годзе, і прывяла да хвалі санкцыяў.

Каляровыя рэвалюцыі ў постсавецкіх краінах у 2003–2005 гадах яшчэ раз пацвердзілі – Крэмль не можа гарантаваць бяспеку ці хаця б выжыванне "свайму" чалавеку ў Мінску. Беларускія кіраўнікі назіралі, як празаходняя апазіцыя ў постсавецкіх рэспубліках зрынае ўрады, якія не спяшаліся рухацца ў бок Захаду і кардынальных палітычных зменаў. Беларускія ўлады зразумелі, што статус заўзятага прыхільніка Расіі павышае верагоднасць шчодрай знешняй падтрымкі такіх самых рухаў у Беларусі з-за геапалітычных прычын. Яны таксама зразумелі, што ў Беларусі ёсць вялікі патэнцыял для рэалізацыі рэвалюцыйнага сцэнару падзеяў пасля знішчэння ўрадам палітычнага плюралізму і маргіналізацыі значных частак беларускага палітычнага спектру.

Разуменне гэтых момантаў стала прычынай рэакцыі ўладаў на падрыхтоўку да пратэстаў і самі пратэсты пасля прэзідэнцкіх выбараў у сакавіку 2006 года. Тады беларускія службовыя асобы і дзяржаўныя СМІ шырока выкарыстоўвалі ідэю падтрымкі апазіцыі Захадам, а таксама Украінай і Грузіяй, дзе нядаўна ў выніку "каляровых рэвалюцый" змяніліся тамтэйшыя рэжымы.

Вышэйапісаныя абставіны і наступныя падзеі паказваюць, што 2006–2007 гады сталі пачаткам новага этапу ў беларускай знешняй палітыцы, які вызначаўся нарастаннем элементаў нейтралітэту. Яго сімвалічным пачаткам стала наладжванне Мінскам сяброўскіх адносінаў з краінамі, якія ён зусім нядаўна абвінавачваў у падтрымцы – таксама ад імя Захаду – апазіцыі на выбарах 2006 года – Украіны і Грузіі. Неўзабаве абедзве краіны – якімі кіравала празаходняя эліта і якія мелі напружаныя адносіны з Расіяй – сталі блізкімі партнёрамі Мінска. Адначасова з гэтым Мінск адмовіўся ад ранейшай палітыкі адносінаў з Арменіяй як галоўным партнёрам у каўказскім рэгіёне і змяніў свае прыярытэты там на карысць Азербайджана.

Праз такія крокі Мінск пасябраваў практычна з усімі астатнімі членамі ГУАМа (Грузіяй, Украінай, Азербайджанам і Малдовай, бо на той час Узбекістан аднавіў свае партнёрскія адносіны з Расіяй пасля падзей 2005 года ў Андыжане), колішняга клуба постсавецкіх краінаў, не задаволеных планамі Крамля па дамінаванні на постсавецкай прасторы. Беларускі ўрад дзейнічаў пазбягаючы гучных заяваў, рабіў асцярожныя асобныя крокі, не займаў антырасійскіх пазіцый, але ўвесь час аказваў стрыманы супраціў пашырэнню АПАД (НАТО) і заходняга блоку ў рэгіёне.

Больш за тое, беларускі ўрад не падтрымліваў Крэмль нават у дачыненні да расійскай апазіцыі. Мінск не толькі працягваў супрацоўнічаць з расійскім алігар-

хам Барысам Беразоўскім, але нават развіў гэтыя – сакрэтныя, але інтэнсіўныя і экстэнсіўныя – адносіны[13]. Той факт, што гэтае партнёрства мела палітычнае значэнне і павінна разглядацца менавіта з улікам яго палітычных аспектаў, стане зразумелым, калі мы ўспомнім надзвычайны палітычны націск Масквы на Латвію, якая ўсяго толькі прымала Беразоўскага падчас яго кароткіх візітаў у сярэдзіне 2000-х гадоў. Тым не менш, гэтыя крокі – кантакты з краінамі ГУАМ і расійскай апазіцыяй – дагэтуль застаюцца не праінтэрпрэтаванымі ў СМІ і аналітычных публікацыях як азнакі пашырэння нейтралітэту. Па відавочных прычынах: адны з іх амаль не асвятляліся ў СМІ, а другія апісваліся як звычайныя палітычныя крокі Беларусі ў постсавецкім рэгіёне.



Развіццё адносінаў з Кітаем стала адным са стратэгічных прыярытэтаў беларускага ўрада. Фота: Ройтэрс

Большы інтарэс выклікалі кантакты Мінска з Кітаем. З самага пачатку свайго прэзідэнцтва Лукашэнка лічыў адносіны з Кітаем прыярытэтам беларускай знешняй палітыкі. Гэты прыярэтэт стаў яшчэ больш відавочным пасля таго, як у 2005 годзе Беларусь пачала сутыкацца з вялізным дэфіцытам у гандлі з Кітаем. Нягледзячы на тое, Мінск настойліва развіваў стасункі з Пекінам ва ўсіх сферах – палітычнай, вайсковай, культурнай і г.д.[14] З цягам часу стала відавочна, што беларускае кіраўніцтва разглядае Кітай як проціваrу Расіі. Гэта зразумела і Расія. У 2006 годзе Мінск пачаў беспаспяховыя спробы далучыцца да Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС), у якой дамінаваў Кітай і якая магла б стаць своеасаблівай альтэрнатывай больш схільным да ўмяшання ва ўнутраныя справы постсавецкім арганізацыям пад кіраўніцтвам Масквы, напр. АДКБ, СНД, ЕўрАзЭС[15]. Расія не хавала незадаволенасці такім крокам[16], і ў выніку Беларусь стала партнёрам па дыялогу ШАС толькі ў 2009 годзе і атрымала статус назіральніка ў 2015 годзе.

## 3.2. Відавочнае, але не пажаданае для абмеркавання: Беларускі нейтралітэт пасля расійска-грузінскай вайны 2008 года

Новы беларускі нейтралітэт выйшаў на першы план значна больш выразна пазней, у 2008 годзе. У расійска-грузінскай вайне ў жніўні 2008 года Крэмль у першы раз пасля распаду СССР паказаў сваю гатоўнасць выкарыстаць пры патрэбе свае войскі для змянення постсавецкіх межаў. Гэта была новая сітуацыя для былых краін СССР, якія пабачылі рэальную магчымасць сутыкнення не толькі з эканамічным і палітычным націскам Крамля, але і ваеннай інтэрвенцыяй.

Мінск намагаўся не станавіцца на бок Расіі падчас канфлікту. Пасля яго заканчэння Беларусь цвёрда адмовілася прызнаваць Паўднёвую Асетыю і Абхазію, якія былі абвешчаныя незалежнымі дзяржавамі ў выніку расійскай ваеннай аперацыі. Гэта быў першы публічны скандал, звязаны з развіццём нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы. У наступныя гады, нягледзячы на дэманізацыю грузінскага прэзідэнта Саакашвілі расійскімі СМІ, Лукашэнка захаваў сяброўскія адносіны з ім як з прэзідэнтам і пазней – як з уплывовым палітыкам і, магчыма, пасярэднікам у справах з Захадам.

[13] Денис Лавникевич, Ирина Барамидзе, и Жанна Ульянова. Назло своему протеже, *Gazeta.ru*, 29 марта 2013 года, https://www.gazeta.ru/politics/2013/03/25_a_5116417.shtml

[14] Siarhei Bohdan. China As An Epic Failure Of Belarusian Foreign Policy, *Belarus Digest*, 14 September 2015, http://belarusdigest.com/story/china-epic-failure-belarusian-foreign-policy-23225

[15] Cooley, Alexander, 2012. *Great Games, Local Rules. The New Great Power Contest in Central Asia.* New York: Oxford University Press, *у розных месцах.*

[16] Константин Лантратов, Бек Орозалиев, Михаил Зыгарь, Иван Сафронов, “Шестерка” выходит блоком, *Газета “Коммерсантъ”*, №75, 27 апреля 2006 года, с. 9, http://www.kommersant.ru/doc/670100

Гэтыя новыя кантакты зусім неўзабаве стварылі дадатковыя магчымасці для ўзмацнення незалежнасці Мінска ад Расіі. Пасля шэрагу спрэчак адносна нафты і газу з Масквой Беларусь дамовілася аб закупках нафты з Венесуэлы, прэзідэнтам якой тады быў Уга Чавес. Пастаўкі пачаліся ў траўні 2010 года і працягваліся да чэрвеня 2012 года. Іх маршруты і механізмы змяняліся ў працэсе паставак. Спачатку Беларусь імпартавала венесуэльскую нафту праз краіны Балтыі і Ўкраіну, але пазней быў арганізаваны механізм абмену нафтай, які ўключаў Беларусь, Венесуэлу і Азербайджан і прадугледжваў імпарт азербайджанскай нафты ўзамен на венесуэльскую, прычым азербайджанская нафта мусіла пастаўляцца ў Беларусь праз украінскую тэрыторыю.


З сярэдзіны 2000-х гадоў беларуска-грузінскія адносіны сталі сяброўскімі. Фота: comments.ua

Гэта азначала, што Мінск зрабіў ідэю ГУАМа – стварэнне альтэрнатывы Расіі – рэчаіснасцю. Яна працавала ў адносінах не толькі да дзяржаваў ГУАМа – Украіны і Азербайджана, – але і да краін Балтыі. Мінск упершыню на справе ліквідаваў расійскую нафтавую манаполію ў сваёй частцы Ўсходняй Еўропы. На апошнім этапе паставак на пачатку 2012 года Беларусь штомесяц атрымлівала 160 000 тон нафты па дамове з Венесуэлай і такім чынам забяспечвала невялікую, але зусім не нязначную частку сваіх патрэбаў (восем-дзевяць адсоткаў патрэбнага аб’ёму нафты).

Пагадненне з Венесуэлай было смелым і выбітным дасягненнем з улікам правалу шматлікіх спробаў Украіны зрабіць тое самае з пачатку 1990-х і да сярэдзіны 2000-х гадоў праз супрацоўніцтва з Іранам і Азербайджанам. Гэтыя пастаўкі адразу ж збэсцілі і высмяялі расійскія эксперты і СМІ, якія, напрыклад, настойвалі, што пастаўкі “маюць толькі палітычны сэнс”[17].

З’яўленне нерасійскай нафты ў рэгіёне прымусіла Маскву пайсці на палітычныя саступкі, абы спыніць гэтыя пастаўкі. Віцэ-прэм’ер Уладзімір Сямашка падкрэсліваў, што калі б не было паставак нафты з Венесуэлы, магчыма, не было б пагадненняў аб адзіным рынку нафты і нафтапрадуктаў, падпісаных у 2011 годзе.[18]

У красавіку 2010 года прэзідэнт Лукашэнка даў палітычны прытулак зрынутаму прэзідэнту Кыргызстана Курманбеку Бакіеву. Большасць беларускіх аглядальнікаў і СМІ не прыкмецілі таго, што Бакіеў быў зрынуты пасля таго, як раззлаваў Маскву. Дзяржаўны пераварот супраць яго быў арганізаваны палітычнымі сіламі, якія лічыліся прарасійскімі.

Прадастаўленне палітычнага прытулку Бакіеву стала важнай падзеяй не толькі таму, што паказала новы аспект беларускага нейтралітэту – гатоўнасць даць прытулак тым, хто церпіць палітычны праслед. Яно ясна паказала, што Мінск практыкуе нейтралітэт у тых месцах і сітуацыя, у якіх ён не можа атрымаць імгненную выгаду ад гэтага (хаця магчыма, тым самым Мінск дапамог найперш прэзідэнту Казахстана Назарбаеву, што быў зацікаўлены ў вывазцы Бакіева з рэгіёна, разлічваючы некалі атрымаць дапамогу ад Назарбаева), што сведчыла пра пэўную прынцыповасць беларускага кіраўніцтва. Акрамя таго, гэты жэст хоць і раздражніў Маскву, але ніяк не пасадзейнічаў паляпшэнню адносін Беларусі з Захадам. Апошні аспект дадаткова даказвае, што гэтае рашэнне было не проста крокам у манеўраванні Лукашэнка паміж Расіяй і Захадам, але яшчэ адной праявай прынцыпаў нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы.

Беларускі нейтралітэт атрымаў новы імпульс пасля таго, як унутрыпалітычны канфлікт ва Украіне прывёў да анексіі Крыма Расіяй і ўзброенага канфлікту

[17] Эксперт: пастаўкі нафты з Венесуэлы маюць толькі палітычны сэнс, *Еўрарадыё*, 18 ліпеня 2010 года, http://euroradio.fm/ekspert-pastauki-nafty-z-venesuely-mayuc-tolki-palitychny-sens

[18] Сямашка: Калі б не было паставак нафты з Венесуэлы, магчыма, не было б пагадненняў аб адзіным з Расіяй і Казахстанам нафтавым рынку, *Белапан*, 22 чэрвеня 2012 года, http://by.belapan.by/archive/2012/06/22/by_media_pp_v7/

ва Ўсходняй Украіне. Беларусь адмовілася прызнаць анексію Крыма Расіяй у 2014 годзе, па-ранейшаму працягвала інтэнсіўнае эканамічнае супрацоўніцтва з Украінай і нават пастаўляла туды значныя аб'ёмы ваеннай тэхнікі і абсталявання падвайного прызначэння[19]. З улікам прадказальнай рэакцыі Крамля, Мінск рабіў у гэтым сэнсе вельмі смелыя крокі. Акрамя таго, Беларусь працягнула замацаванне свайго нейтральнага статусу праз удзел у арганізацыі і правядзенні міжнародных перамоваў аб канфлікце ва Ўсходняй Украіне.




Зрынуты кыргызскі прэзідэнт Курманбек Бакіеў знайшоў новы дом у Беларусі. Фота: tut.by

Беларуская пазіцыя адносна Крыма і канфлікту ва Ўсходняй Украіне зрабіла беларуска-расійскія адносіны яшчэ больш нацягнутымі. Аднак Мінск не баяўся працягваць весці сваю палітыку і, напрыклад, па-ранейшаму супрацоўнічаў з Турцыяй пасля разрыву турэцка-расійскіх адносінаў у лістападзе 2015 года з-за вайны ў Сірыі. Калі Расія і Турцыя разарвалі паміж сабой палітычныя, эканамічныя і культурныя адносіны і пайшлі на абвастрэнне канфрантацыі праз сваіх стаўленнікаў у Сірыі, Мінск дэманстратыўна працягваў супрацоўнічаць з Анкарой, і прэзідэнт Лукашэнка нават прыехаў у Стамбул на саміт Арганізацыі ісламскага супрацоўніцтва (АІС) у красавіку 2016 года.

Для вызначэння кампанентаў нейтралітэту ў дадзеным даследаванні разглядаюцца адносіны Беларусі з яе самым значным партнёрам, Расіяй. Але безумоўна, што нейтралітэт не можа абмяжоўвацца толькі адносінамі з гэтым магутным суседам. Некаторыя іншыя напрамкі беларускай знешняй палітыкі паказваюць яшчэ больш яскравыя прыклады беларускага нейтралітэту.[20] Сярод іх – шматлікія выпадкі падтрымлівання добрых адносінаў з краінамі, якія супрацьстаяць адна адной. У наступнай табліцы пералічаныя некаторыя з іх.

*Табліца 1. Прыклады нейтральнай знешняй палітыкі Беларусі ў адносінах да краін, што супрацьстаяць адна адной*

| Краіны-партнёры Беларусі, што супрацьстаяць адна адной | Часавы прамежак |
|---|---|
| Ірак – Іран і Сірыя | кан. 1990-х – пач. 2000-х |
| Ізраіль – Іран, Сірыя | 1990-я – 2010-я |
| Азербайджан – Арменія | кан. 2000-х – сяр. 2010-х |
| Арабскія манархіі (Катар, ААЭ і інш.) – радыкальныя рэжымы Блізкага Ўсходу (Лівія, Іран, Сірыя) | 1990-я – пач. 2010-х |

Нейтралітэт не азначаў абсалютную бесстароннасць. Мінск праяўляў гнуткасць у адносінах з партнёрамі ў залежнасці ад патрэбаў і магчымасцяў Беларусі ў пэўны канкрэтны момант часу.

Гэтая гнуткасць і адмаўленне ад падтрымкі аднаго канкрэтнага боку ў нейкім канфлікце не можа лічыцца апартунізмам, таму што вядзенне такой палітычнай лініі часта стварала цяжкасці для беларускай вонкавай палітыкі. Зноў і зноў Беларусі даводзілася пераадольваць наступствы гэтай палітыкі. Напрыклад, супрацоўніцтва Беларусі адначасова з Іранам і Ізраілем выклікала крытыку Тэль-Авіва, на якую адгукнуўся Тэгеран. Вынікам стала складаная для Мінска сітуацыя ў знешнепалітычнай сферы, пра што стала шырока вядома ў чэрвені 2009 года падчас візіту міністра замежных спраў Ізраіля Авігдора Лібермана[21].

[19] Siarhei Bohdan. Belarus Helps Ukraine With Military Equipment, *Belarus Digest*, 10 April 2015 http://belarusdigest.com/story/belarus-helps-ukraine-military-equipment-22274

[20] Каб атрымаць доступ да больш падрабязнага абмеркавання гэтых прыкладаў, калі ласка, звярніцеся да наступнай крыніцы: Siarhei Bohdan, Belarusian Foreign Policy: Between Tehran And Tel-Aviv, *Belarus Digest*, 09 August 2013, http://belarusdigest.com/story/belarusian-foreign-policy-between-tehran-and-tel-aviv-15032

[21] Белорусско-иранские отношения не являются угрозой для других стран, уверяет иранский посол, *Naviny.by*, 04 июня 2009 года, http://naviny.by/rubrics/politic/2009/06/04/ic_news_112_312417/

## 3.3. Дынаміка: станаўленне беларускага нейтралітэту

Каб ацаніць месца нейтралітэту ў беларускіх вонкавых зносінах, неабходна вызначыць галоўныя рашэнні і падзеі ў знешняй палітыцы Беларусі за мінулае дзесяцігоддзе. Гэтыя рашэнні і падзеі трэба ахарактарызаваць у залежнасці ад іх важнасці для трох асноўных зацікаўленых бакоў: Беларусі, Расіі і Захаду. Такі аналіз дазваляе атрымаць спрошчаную схему развіцця элементаў нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы. Для мэтаў дадзенага даследавання пад важнасцю праблемы для асобнага боку разумеецца значнасць гэтай праблемы як такой, самой па сабе і непасрэдна для гэтага боку (без уліку шырэйшага кантэксту).

Так, напрыклад, канфлікт ва Ўсходняй Украіне з'яўляецца важнай праблемай для Беларусі, бо ён стварае прамую пагрозу яе дабрабыту і бяспецы. Лагічна чакаць, што Мінск адрэагуе на гэтую праблему перш за ўсё згодна са сваімі непасрэднымі інтарэсамі (гандаль, стабільнасць у рэгіёне, забеспячэнне бяспекі межаў, прадухіленне экстрэмізму і г.д.). У дадзеным выпадку беларускія ўлады могуць дзейнічаць, нават свядома дапускаючы адмоўную рэакцыю на беларускія дзеянні з боку іншых, трэціх краін.

З іншага боку, адмова ў 2015–2016 гадах ад спынення адносін з Турцыяй і працяг супрацоўніцтва з Анкарой самі па сабе мала што значылі для Мінска, у адрозненне ад Масквы: тут не былі закранутыя непасрэдныя нацыянальныя інтарэсы Беларусі. І калі Мінск заняў у дачыненні да гэтага пытання, якое не мела вялікага непасрэднага значэння для Беларусі, але была вельмі значным для Расіі, пазіцыю, што прадугледжвала адмову ад безумоўнай падтрымкі Расіі, гэта азначае прынцыповае рашэнне на карысць больш збалансаванай і нейтральнай пазіцыі.

*Табліца 2. Асноўныя элементы нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы ў 2006–2016 гг.*

| Падзея | Важнасць для Беларусі | Важнасць для Расіі | Важнасць для Захаду |
|---|---|---|---|
| Збліжэнне з Украінай з 2006 г. | высокая | нізкая | нізкая |
| Збліжэнне з Грузіяй з 2006 г. | нізкая | нізкая | нізкая |
| Збліжэнне з ШАС з 2006 г. і больш актыўны ўдзел у ШАС з 2009 г. | сярэдняя | сярэдняя ці высокая (з пачатку 2010-х гг.) | нізкая |
| Пазіцыя адносна вайны 2008 г. у Грузіі | нізкая | высокая | высокая |
| Непрызнанне Абхазіі і Паўднёвай Асеты з 2008 г. | нізкая | высокая | высокая |
| Кантакты з расійскай апазіцыяй з канца 2000-х гг. (Беразоўскі) | высокая | высокая | нізкая |
| Альтэрнатыўныя пастаўкі нафты ў 2010-2012 гг. | высокая | высокая | нізкая |
| Палітычны прытулак Бакіеву пасля 2010 г. | нізкая | нізкая | нізкая |
| Непрызнанне анексіі Крыма пасля 2014 г. | сярэдняя | высокая | высокая |
| Адмаўленне ад падтрымкі Расіі ў канфлікце ва Ўсходняй Украіне з 2014 г. | высокая | высокая | высокая |
| Адмова ад падтрымкі Расіі ў канфлікце з Турэччынай у 2015-2016 гг. | нізкая | высокая | нізкая |

Як вынікае з Табліцы 2, беларускі ўрад праводзіў сваю асобную палітыку, што значна адрознівалася ад расійскай і ўвасобілася ў серыі важных рашэнняў, звязаных са знешняй палітыкай і/ці двухбаковымі адносінамі з трэцімі краінамі. З 2008 года Мінск рэгулярна кідаў выклік Маскве адносна праблем знешняй

палітыкі, якія мелі істотнае значэнне для Расіі. Некаторыя з гэтых праблем не былі важнымі для Захаду і таму не могуць разглядацца ў кантэксце супрацьпастаўлення Мінскам Расіі і Захаду.

У большасці гэтых выпадкаў Менск не толькі не падтрымліваў Расію, але таксама адмаўляўся падтрымліваць яе апанентаў. Іншымі словамі, Беларусь не пераходзіла на другі бок і не змяняла сваіх прыхільнасцяў. Яна куды хутчэй імкнулася застацца нейтральнай і знайсці сярэдні шлях. Сітуацыі вакол Усходняй Украіны і Крыма могуць разглядацца як два яскравыя прыклады гэтай палітыкі.

З 2008 года Мінск рэгулярна кідаў выклік Маскве адносна праблем знешняй палітыкі, якія мелі істотнае значэнне для Расіі

Нягледзячы на тое, што пытанні аб ступені, механізмах і дынаміцы беларускага нейтралітэту патрабуюць далейшага вывучэння ў рамках большага даследавання, нават гэты кароткі аналіз паказвае а) пастаянную наяўнасць асноўных элементаў нейтралітэту ў беларускай знешняй палітыцы ў 2006-2016 гг; б) іх з'яўленне ў 2006–2007 гадах, умацаванне ў 2008 годзе і значны ўздым пасля 2013 года; в) імкненне беларускага ўрада ўмацаваць гэтыя элементы, якія рыхтуюць глебу для паўнавартаснага і фармалізаванага нейтралітэту.

## 3.4. Нейтралітэт як канцэпцыя і практыка

Беларуская апазіцыя няспынна крытыкуе беларускі нейтралітэт як нешта, чаго ў рэальнасці няма. «Ці ёсць у Беларусі сапраўдны нейтралітэт», пытаецца палітолаг Янаў Палескі, маючы на ўвазе, што адказ будзе адмоўным[22]. Часам сцвярджаецца, што захаваць яго практычна немагчыма[23].

Гэтая крытыка заснаваная на нарматыўным падыходзе да пытання аб нейтралітэце. Яна адкрыта ці імпліцытна абгрунтоўваецца праз параўнанне з нейкай мадэллю, "як гэта мае быць". Напрыклад, палітычны актывіст Яўген Анішчанка заклікае ў "Народнай волі" абвясціць "канстытуцыйны рэжым пастаяннага нейтралітэту", які, паводле яго, "ужо выкарыстоўваецца ў сусветнай практыцы"[24]. Памочнік кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2015 года Таццяны Караткевіч Андрэй Дзмітрыеў падтрымлівае іншую тэарэтычную канцэпцыю – "вайсковы нейтралітэт" – і нават задае дзесяцігадовы тэрмін для яго дасягнення. Праблему таго, як вымусіць Расію прызнаць беларускі нейтралітэт, ён вырашае проста. Ён упэўнены, што праз дзесяць гадоў сітуацыя зменіцца, і тады Расія пагадзіцца з нейтралітэтам Беларусі, "адпусціць" яе[25]. Апошняе выказванне і іншыя дэталі ў артыкуле сведчаць, што ён не бачыць неабходнасці ў дасягненні дамоўленасцяў з Расіяй для забеспячэння нейтралітэту.

Адным словам, мала хто з апазіцыйных палітыкаў і актывістаў вітае ці хаця б успрымае як нешта каштоўнае цяперашні падыход беларускага ўрада, заснаваны на пабудове нейтралітэту ad hoc, г.зн. праз сітуацыйна абумоўленыя крокі. Большасць выказвае сваё расчараванне ў сувязі з цяперашнім беларускім нейтралітэтам, які моцна адрозніваецца ад нейтралітэту іншых нейтральных дзяржаў, што лічацца ўзорамі нейтральнасці, як то Швецыі, Швейцарыі або Фінляндыі.

Беларускі ўрад гэтаксама пакуль не сфармуляваў сваё бачанне нейтралітэту ў выглядзе апублікаванай прапрацаванай канцэпцыі. Магчыма, прычына ў тым,

[22] Янов Полесский. Есть ли у Беларуси подлинный нейтралитет, *"Наше мнение"*, 14 декабря 2015 года, http://thinktanks.by/publication/2015/12/14/est-li-u-belarusi-podlinnyy-neytralitet.html

[23] Таццяна Шапуцька. Нейтралітэт па-беларуску: не ваюем, але ў вайсковыя арганізацыі ўваходзім, *Ідэя*, 22 Снежня 2015 года, https://ideaby.org/military-organisations/

[24] Евгений Анищенко. Беларуси нужен конституционный режим постоянного нейтралитета, *Народная Воля*, 9 студзеня 2013 года, http://tinyurl.com/hyrgz7l

[25] Андрэй Дзмітрыеў: Дасягненне нейтралітэту павінна стаць галоўнай мэтай замежнай палітыкі Беларусі, *Наша Ніва*, 08 мая 2016 года, http://nn.by/?c=ar&i=169875

што яму бракуе інтэлектуальных рэсурсаў, або ў тым, што калі канцэпцыя будзе прадстаўленая занадта адкрыта, яна можа стаць бескарыснай і нават шкоднай, бо ўсталюе канцэптуальныя абмежаванні для знешнепалітычных манеўраў Беларусі. Мінску было куды зручней цягам многіх гадоў будаваць нейтралітэт на сітуацыйнай аснове, адказваючы на выклікі, з якімі сутыкаецца і не заганяючы сябе ў рамкі прынцыпаў. Зважаючы на складаны характар беларускіх адносін з Масквой, беларускае кіраўніцтва можа лічыць за лепшае пазбягаць залішняй яснасці і адкрытасці ў справах знешняй палітыкі і нацыянальнай бяспекі.




У верасні 2015 года кандыдат у прэзідэнты Таццяна Караткевіч запатрабавала “ваеннага нейтралітэту” для Беларусі. Фота: Belapan.com

Такім чынам, беларускі нейтралітэт не мае ідэалагічных каранёў. Развіваючы яго, Мінск дбае ў асноўным аб прагматычных патрэбах выжывання нацыі. Менавіта цяжкія знешнія ўмовы змусілі ўрад звярнуцца да забытага канстытуцыйнага прынцыпу.

Замест выкарыстання дакладнага тэрміна “нейтралітэт”, які мае больш пэўныя канатацыі, Мінск высунуў арыгінальныя самабытныя канцэпцыі, што ўключалі элементы нейтралітэту і заставаліся даволі размытымі. Такая няпэўнасць пакідала ўраду больш прасторы для палітычных манеўраў і дазваляла пазбягаць гневу Масквы. Афіцыйны дыскурс беларускага кіраўніцтва змяшчае два найбольш важных паняцці такога кшталту – “шматвектарнасць” і “інтэграцыя інтэграцый”.[26]

Яшчэ ў студзені 1995 года прэзідэнт Лукашэнка падкрэсліў неабходнасць дасягнення балансу паміж “усходнімі і заходнімі інтарэсамі” беларускай дзяржавы. Прынцып шматвектарнасці быў абвешчаны Лукашэнкам адным з асноўных прынцыпаў знешняй палітыкі Беларусі ў кастрычніку 1996 года. Сапраўды, з тае пары ўрад пастаянна звяртаўся да панятку шматвектарнасці, каб патлумачыць сваю знешнюю палітыку. З цягам часу дадзеная канцэпцыя была развітая ад простай дыверсіфікацыі знешніх адносін у канцэпцыю, што была больш падобная да нейтралітэту. У красавіку 2011 года Лукашэнка вызначыў шматвектарнасць як стратэгію “роўнай прыбліжанасці” да Усходу і Захаду.[27]

Неўзабаве пасля гэтага, у кастрычніку 2011 года ён напісаў артыкул, дзе прапанаваў шырэйшае паняцце з падобным значэннем – “інтэграцыя інтэграцый”.[28] Тэкст заклікаў да пераадолення супрацьпастаўлення “Еўразійскі эканамічны саюз – Еўрапейскі саюз”, а таксама да супрацоўніцтва з іншымі краінамі і інтэграцыйнымі блокамі на ўсходзе. Для Беларусі гэта азначала фактычнае пераадоленне прыналежнасці выключна да прарасійскага блоку і далучэнне да розных праектаў інтэграцыі на ўсходзе і захадзе.

Нягледзячы на тое, што такія канцэптуальныя канструкцыі таксама не маюць прапрацаванай інтэлектуальнай асновы, гэта не прычына, каб адхіляць іх. На самай справе, яны здаюцца працягам савецкай практыкі фармулявання палітычных канцэпцый часта толькі з мінімальнай аргументацыяй і неадназначнымі фармулёўкамі. Самае важнае ў паняццях, прагаворваных Лукашэнкам, – гэта іх асноўная ідэя: ухіленне ад канчатковага выбару і падтрымкі аднаго з бакоў, захаванне некаторай адлегласці ад краін або блокаў, якія супрацьстаяць адзін аднаму.

---

26 Шадурский, Виктор, 2010. Реализация принципа многовекторности в белорусской внешней политике, *Труды факультета международных отношений: научный сборник*. Вып. I. Минск: БГУ. С. 47–51.

27 Каваленя, А.А. (рэд.), 2012. *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.* Мінск: Беларуская навука. С. 562–565.

28 Александр Лукашенко. О судьбах нашей интеграции, *Известия*, 17 октября 2011 года, http://izvestia.ru/news/504081

# 4. Элементы нейтралітэту ў беларускай палітыцы нацыянальнай бяспекі

Што датычыць агульнага імкнення да нейтралітэту, то ў галіне палітыкі нацыянальнай бяспекі карціна прадказальна выглядае менш адназначна. Беларусь па-ранейшаму выконвае шматлікія вайсковыя пагадненні з Расіяй і з’яўляецца членам АДКБ. У Беларусі знаходзяцца два расійскія вайскова-тэхнічныя аб’екты, а ў апошнія гады Мінск вёў перамовы з Масквой аб магчымым размяшчэнні расійскай авіябазы.

Такім чынам, на першы погляд асаблівых прыкметаў нейтральнасці не відаць. Але ў гэтым, як і ў многіх іншых выпадках, пераважае меркаванне, якое з’яўляецца вынікам мноства палітычна прадузятых аналізаў. У рамках гэтых аналізаў любы крок Мінска разглядаецца або як прарасійскі, або як антырасійскі. Акрамя таго, абмеркаванне ў СМІ было недастаткова падрабязным, напрыклад, падчас дыскусіі наконт размяшчэння авіябазы ні адзін беларускі сродак масавай інфармацыі не прааналізаваў змены ў вайсковым балансе, якія стварылі кантэкст для перамоваў наконт базы. Існуе шэраг фактаў, якія дазваляюць паставіць пад сумнеў абгрунтаванасць мэйнстрымных меркаванняў аб адсутнасці прыкмет нейтралітэту ў беларускай палітыцы нацыянальнай бяспекі.

## 4.1. Удзел у Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы

Афіцыйна Беларусь застаецца ўдзельніцай Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ), дзе дамінуе Расія. Тым не менш, як і ў выпадку амаль усіх іншых постсавецкіх міжнародных арганізацый і ініцыятыў, статус і рэальныя функцыі (ці хутчэй дысфункцыі) гэтай арганізацыі ставяць пад сумнеў яе здольнасць каардынаваць і, такім чынам, аказваць уплыў на палітыку сваіх чальцоў.

АДКБ пакуль не ўдавалася пераканаць сваіх чальцоў не толькі накіраваць іх войскі ў нейкія зоны канфліктаў, але і нават падтрымаць адзін аднаго ў адпаведных сітуацыях. Гэта было відавочна, калі, напрыклад, члены АДКБ нават устрымаліся ад таго, каб хоць на словах падтрымаць Расію ў яе сутыкненнях з Украінай і Турэччынай, а таксама не праявілі салідарнасці з Арменіяй пасля аднаўлення ваенных дзеянняў у Нагорным Карабаху ў красавіку 2016 г.[29] Памянёныя выпадкі не былі нейкімі нязначнымі здарэннямі, яны ўключалі ў сябе цэлы шэраг эпізодаў, у якіх Мінск рашуча адмовіўся падтрымаць адпаведна Маскву і Ерэван.

АДКБ пакуль не ўдавалася пераканаць сваіх чальцоў не толькі накіраваць іх войскі ў нейкія зоны канфліктаў, але і нават падтрымаць адзін аднаго ў адпаведных сітуацыях

У канфлікце паміж Расіяй і Турцыяй, якая пачаўся ў лістападзе 2015 года, прадстаўнікі краін-чальцоў АДКБ у снежні спачатку адмовіліся зрабіць заяву ў падтрымку Масквы ў яе канфрантацыі з Анкарой. Пазней, пасля таго, як дэлегат з Арменіі абвясціў, што яны выказалі падтрымку Крамлю, міністэрствы абароны Беларусі і Казахстана абверглі гэтую інфармацыю.[30]

Другі падобны ланцуг падзей, якія паказалі слабасць АДКБ, меў месца вясной 2016 года. Спачатку 2 красавіка 2016 года Міністэрства замежных спраў Беларусі адрэагавала на пачатак новага раўнду ваенных дзеянняў у Карабаху заявай,

[29] Иван Зацарин. Школа боевых искусств для Евразии: к 22-летию Договора о коллективной безопасности, *История России*, 20 апреля 2016 года, http://histrf.ru/lyuboznatelnim/nations-of-russia/nations-of-russia-article/shkola-boievykh-iskusstv-dlia-ievrazii-k-22-lietiiu-doghovora-o-kolliektivnoibiezopasnosti

[30] Павел Юринцев, Филипп Прокудин. Кто уполномочен заявить: почему союзники Москвы решительно отмежевались от конфликта с Турцией, *Лента*, 15 декабря 2015 года, https://lenta.ru/articles/2015/12/15/odkb/

у якой падкрэслівалася непарушнасць міжнародных межаў і тэрытарыяльнай цэласці. Гэта разгневала Арменію, таму што ў тым кантэксце такая пазіцыя азначала падтрымку Азербайджана, які патрабуе вяртання яму ўсіх земляў, што ўваходзілі ў склад савецкага Азербайджана. Нягледзячы на жорсткую рэакцыю Ерэвана, 4 красавіка Мінск зрабіў другую заяву аб тым, што беларускія войскі не могуць накіроўвацца для ўдзелу ў замежных канфліктах.[31] Гэта было ўдарам па структуры АДКБ, чальцоў якой Ерэван спадзяваўся падключыць да свайго канфлікту з Азербайджанам.



Міністр абароны Беларусі Юрый Жадобін узяў удзел у пасяджэнні Савета міністраў АДКБ у Маскве ў чэрвені 2014 г. Фота: Пасольства Беларусі ў Маскве

Прыняццём ў красавіку 2016 года новай нацыянальнай ваеннай дактрыны Мінск падвёў канчатковую рысу пад спробамі прыцягнення беларускіх войскаў для ўдзелу ў аперацыях АДКБ. Норма аб ненакіраванні беларускіх войскаў у зоны канфліктаў за мяжой існавалі ў беларускім заканадаўстве з 1991 года, і новая дактрына яе пацвердзіла.

Змены ў дактрыне падарвалі ўзгодненасць дзеянняў АДКБ і нават выклікалі пратэсты з боку іншых чальцоў арганізацыі. 15 красавіка 2016 года намеснік міністра замежных спраў Арменіі Шаварш Качаран публічна заявіў, што новая беларуская ваенная дактрына выклікае заклапочанасць у Арменіі як члена АДКБ.

Той факт, што АДКБ мае невялікае значэнне для яе чальцоў, прызнаюць многія аналітыкі і палітыкі. Нават беларускі прэзідэнт Лукашэнка на сустрэчы з генеральным сакратаром АДКБ Мікалаем Бардзюжам у 2015 годзе папярэджваў, што гэтая арганізацыя можа стаць "яшчэ адным фантомам" [як і іншыя постсавецкія структуры]. Беларускі палітолаг Андрэй Фёдараў сцвярджае, што "яшчэ занадта рана называць АДКБ рэальна дзеючай ваенна-палітычнай арганізацыяй.[32]

## 4.2. Расійская вайсковая прысутнасць

На дадзены момант Расія мае два вайскова-тэхнічныя аб'екты ў Беларусі. Масква падкрэслівае, што гэта не "базы", а якраз "аб'екты". На паўночным захадзе Беларусі ў горадзе Вілейка з 1964 года дзейнічае 43-і вузел сувязі ВМФ Расіі, дзе, па афіцыйных звестках, служаць 350 ваенна-марскіх афіцэраў і мічманаў. Радыёлакацыйная станцыя далёкага выяўлення расійскіх Вайскова-паветраных сілаў дзейнічае з 2002 года на поўдні краіны, у Ганцавічах. За гэтым аб'ектам замацаваныя прыкладна 2 000 расійскіх вайскоўцаў.

Прысутнасць расійскіх войскаў у Беларусі застаецца меншай, чым у іншых краінах былога Савецкага Саюза, напрыклад, у Таджыкістане ці Арменіі або ў Крыме да 2014 года. Два вышэйзгаданыя вайсковыя аб'екты былі створаныя згодна з дамовай паміж дзвюма дзяржавамі, падпісанай у студзені 1995 года, г.зн. да таго, як Лукашэнка ўмацаваў сваю ўладу.[33]

На гэтым фоне авіябаза Расіі, стварэнне якой абмяркоўвалася ў 2013–2015 гадах, выглядала як штосьці новае. Але ўсе размовы пра яе былі толькі рычагом удзеяння. Найважнейшы рэсурс Беларусі – гэта яе размяшчэнне паміж Расі-

[31] Siarhei Bohdan. Belarus-Turkey Rapprochement: Minsk Refuses To Fight For Kremlin And Its Allies, *Belarus Digest*, 20 April 2016, http://belarusdigest.com/story/belarus-turkey-rapprochement-minskrefuses-fight-kremlin-and-its-allies-25424

[32] Андрей Федоров. Преодолеет ли ОДКБ стадию фантома? *Naviny.by*, 19 апреля 2015 года, http://naviny.by/rubrics/politic/2015/04/19/ic_articles_112_188707/

[33] Siarhei Bohdan. Belarus Wants New Russian Fighter Jets But Without Russian Pilots, *Belarus Digest*, 03 May 2013, http://belarusdigest.com/story/belarus-wants-new-russian-fighter-jets-without-russian-pilots-13897

яй і ЕС. Публічна прагаворваючы магчымасць размяшчэння большай колькасці расійскіх войскаў у краіне беларускі лідар мог набраць дадатковыя балы ў некалькіх геапалітычных гульнях, у дадатак да новых расійскіх крэдытаў ці субсідый.



Расійскі вайсковы аб’ект у Вілейцы.
Фота: Грамадская ўласнасць

Хаця існуючыя ваенныя аб’екты Расіі, безумоўна, абмяжоўваюць беларускі нейтралітэт, яны з’яўляюцца рэшткамі папярэдняй эпохі, якая папярэднічала з’яўленню незалежнай Беларусі. Іх праўны статус быў замацаваны ў тыя часы, калі беларуская знешняя палітыка не мела выразна акрэсленай формы. Такім чынам, ні стварэнне гэтых аб’ектаў, ні іх праўнае афармленне не супярэчаць канцэпцыі нейтралітэту, бо яны з’яўляюцца рэліктамі, што выйшлі з іншага геапалітычнага кантэксту.

Больш за тое, практыка нейтралітэту ў глабальнай палітыцы даводзіць, што нават нейтральная краіна можа весці вайсковае супрацоўніцтва з іншай дзяржавай, не губляючы свайго нейтральнага статусу ў міжнароднай палітыцы. Характэрным прыкладам з’яўляецца Туркменістан, які ў 2000-х і 2010-х гадах моўчкі супрацоўнічаў з ЗША і падтрымаў амерыканскую аперацыю ў Афганістане шляхам прадастаўлення некаторых правоў доступу вайскова-паветраным сілам ЗША.

## 4.3. Расійская авіябаза ў Беларусі

Дзмітрый Мядзведзеў сцвярджаў, што ідэя стварэння авіябазы ў Беларусі з’явілася ў 2009 годзе. “Размова ішла пра падпісаныя ў той час рашэнні, якія датычыліся сумеснай аховы межаў Беларусі і Расіі і сумеснай сістэмы супрацьпаветранай абароны. Дадзенае пагадненне [*аб авіябазе*] з’яўляецца рэалізацыяй гэтых пагадненняў”.”[34]

Разам з тым, у памянёных дакументах нічога канкрэтнага не гаворыцца пра пастаянную расійскую базу ў Беларусі. Згодна з вядомымі фактамі, Масква вырашыла ўзмацніць сваю вайсковую прысутнасць у Беларусі толькі на пачатку 2013 года. У красавіку 2013 года Расія публічна абвясціла свае планы размяшчэння расійскіх вайскова-паветраных сілаў у Беларусі.



Расійскі вайсковы аб’ект у Ганцавічах. Фота: Mil.ru

Абнародаваныя тады падрабязнасці афіцыйных перамоваў і каментары экспертаў сведчылі, што прычынай такіх планаў было аслабленне беларускіх вайскова-паветраных сілаў. Сапраўды, у той час Масквы засумнявалася ў здольнасці Мінска абараніць сумесную паветраную мяжу Беларусі і Расеі згодна дамоўленасцям. Мінск, які атрымаў у спадчыну вялікі парк найноўшых савецкіх ваенных самалётаў, не купляў новую тэхніку пасля атрымання незалежнасці.

Сітуацыя з састарэлымі беларускімі самалётамі пагоршылася ў 2010-х гадах з-за фінансавых цяжкасцяў Беларусі. Да таго часу ў Мінска не засталося ніводнага цяжкага знішчальніка Су-27. Раней, у сярэдзіне 2000-х гадоў, беларускі ўрад з-за недахопу сродкаў прыпыніў праграму мадэрнізацыі лёгкіх знішчальнікаў МіГ-29 на дзесяць гадоў. Гэтая праграма была адноўленая толькі ў кан-

[34] Путин поручил Минобороны подписать соглашение об авиабазе в Белоруссии, *Интерфакс*, 19 сентября 2015 года, http://www.interfax.ru/russia/467833

цы 2013 года пасля таго, як Мінск зразумеў, што Расія не дасць яму больш сучасныя летакі.

У гэтых умовах Расія хацела накіраваць у Беларусь ўласныя знішчальнікі. З пункту гледжання рэгіянальнага вайсковага балансу гэта азначала вяртанне да сітуацыі дзесяцігадовай даўніны. Тады ў Мінска яшчэ быў цэлы полк цяжкіх знішчальнікаў "Сухі", цяпер Расія хацела накіраваць свой уласны полк (тых самых мадэрнізаваных самалётаў "Сухі") у Беларусь[35].




Беларускі міністр абароны Андрэй Раўкоў назваў пытанне аб магчымай расійскай авіябазе ў Беларусі «палітычным». Фота: tut.by

Пасля працяглых перамоваў Мінск дамогся змянення месцазнаходжання базы, адсунуўшы яе як мага далей ад межаў АПАД (НАТО). Потым ён угаварыў Расію скараціць колькасць летакоў, якія яна збіралася размясціць. І, нарэшце, восенню 2015 года беларускае кіраўніцтва адмовілася ад стварэння расійскай авіябазы на любых умовах.

Гэты вынік быў чаканым не толькі з-за небяспекі, звязанай са стварэннем расійскай вайсковай базы ў Беларусі ў сітуацыі канфрантацыі паміж Расіяй і АПАД (НАТО). Да таго часу Мінск таксама патрапіў ужо ўмацаваць уласныя вайскова-паветраныя сілы адрамантаваўшы свае знішчальнікі і мог надалей выконваць свае абавязанні ў рамках сумеснай беларуска-расійскай сістэмы супрацьпаветранай абароны.

Безумоўна, Мінск павінен быў быць вельмі асцярожным пры аддаленні ад Масквы ў вайсковай сферы з-за далікатнасці закрананых пытанняў. Расія мае істотныя інтарэсы ў сферы бяспекі, звязаныя з Беларуссю, у прыватнасці звязаныя з непасрэднай блізкасцю Беларусі да «ядра» Расеі, яе ключавых рэгіёнаў і сталіцы, Масквы. Беларускае войска таксама звязана і часта залежыць ад Расіі ў многіх тэхнічных, дактрынальных, гістарычных і нават чалавечых адносінах, таму любыя радыкальныя крокі па змяненні сітуацыі могуць мець надзвычай разбуральныя наступствы. Не дзіва, што Мінск дзейнічаў больш асцярожна і павольна, дапаўняючы змены ў сваёй знешняй палітыцы ў бок нейтралітэту адпаведнымі дапасаваннямі сваёй палітыкі ў галіне нацыянальнай бяспекі.

## 4.4. Дыверсіфікацыя ў ваеннай сферы і абароннай прамысловасці

Будучы невялікай краінай, апанаванай шматлікімі эканамічнымі праблемамі, Беларусь мусіць супрацоўнічаць з іншымі дзяржавамі для падтрымання нават мінімальнай абароназдольнасці. Раней такое супрацоўніцтва Беларусь падтрымлівала толькі з Расіяй. Аднак з пачатку 2010-х гадоў нацыянальнае войска і абаронная прамысловасць дасягнулі пэўнага ўзроўню ўразнастайнення (дыверсіфікацыі) у іх закупках, продажах і тэхналагічным супрацоўніцтве. Нягледзячы на тое, што маюцца толькі фрагментарныя звесткі па дадзенай тэме, Беларусь відавочна ажыццяўляе маштабнае супрацоўніцтва ў вайсковай і вайскова-прамысловай сферах з Кітаем, а таксама вайскова-прамысловае супрацоўніцтва з Украінай (нягледзячы на яе канфлікт з Расіяй), Азербайджанам, Туркменістанам, Пакістанам і некаторымі іншымі краінамі.

Бясспрэчна, супрацоўніцтва з Украінай і Кітаем мае асабліва істотнае значэнне для Беларусі. Супрацоўніцтва з Украінай пасля пачатку канфлікту паміж Кіевам

[35] В Барановичах до конца 2014 года развернут полк российских истребителей, *Naviny.by*, 17 марта 2014 года, http://naviny.by/rubrics/politic/2014/03/17/ic_news_112_433531

і Масквой працягнулася і нават паглыбілася[36]. Урад Беларусі і асабліва абаронная прамысловасць пачалі асвойваць новыя сферы для супрацоўніцтва. Ужо ў красавіку 2014 года падчас наведвання Баранавіцкага 558-га авіярамонтнага завода Лукашэнка заявіў: “Давайце паспрабуем заключаць дамовы з украінцамі і працаваць разам, каб ўкраінскія інтэлектуальныя і інжынерныя цэнтры і канструктары не зніклі”.



Рэактыўная сістэма залпавага агня “Паланез”. Фота: Міністэрства абароны

У канцы верасня 2014 года дэлегацыя беларускага ваенна-прамысловага комплексу наведала ўкраінскія абарончыя прадпрыемствы. Яе ўдзельнікі праявілі асаблівую цікавасць да заводаў і праектных арганізацый у Кіеве, Львове, Днепрапятроўску і Чарнігаве, якія былі звязаныя з ракетамі і ракетнымі элементамі (г.зн. ракетамі супрацьпаветранай абароны, класа «зямля-зямля» і крылатымі ракетамі). Былі паведамленні пра ўдзел Украіны ў распрацоўцы РСЗА “Паланэз”, а таксама пра падрыхтоўку да вытворчасці ракет для зенітных ракетных сістэм у Беларусі. На думку некаторых экспертаў, ў 2013 ці 2014 годзе Беларусь магла пачаць фінансаванне распрацоўкі тактычнай балістычнай ракетнай сістэмы «Гром» украінскім Дзяржаўным канструктарскім бюро «Паўднёвае».[37]

Іншым прыкладам дыверсіфікацыі сувязяў беларускай ваеннай і абароннай прамысловасці з’яўляецца супрацоўніцтва з Кітаем. Пасля таго, як Крэмль пры канцы 2000-х і пачатку 2010-х гадоў адмовіўся даць Беларусі сучасную зброю, як то тактычныя балістычныя ракетныя комплексы “Іскандэр”, прыкладна каля 2009 года Мінск пачаў супрацоўніцтва з Кітаем па распрацоўцы новых відаў зброі. У 2012-2013 гадах Мінск, паводле наяўных звестак, падпісаў два пагадненні з Кітаем аб распрацоўцы двух вялікіх комплексаў узбраення: рэактыўнай сістэмы залпавага агню (РСЗА) і зенітнага ракетнага комплексу. Першае з гэтых пагадненняў ужо дало плён, бо ў 2015 годзе Мінск прадэманстраваў РСЗА “Паланэз”.



Сумесныя беларуска-кітайскія вайсковыя вучэнні ў Брэсцкай вобласці. Фота: Міністэрства абароны

15 студзеня 2016 года беларуска-кітайскі спадарожнік “Белінтэрсат-1” быў запушчаны з кітайскага касмадрома “Січан”. З беларускага боку адказным за праект быў Дзяржаўны вайскова-прамысловы камітэт Беларусі, а з кітайскага боку праект ажыццявіла кампанія «Great Wall Industrial Corporation». Запуск спадарожніка стаў другім праектам супрацоўніцтва з Кітайскай аэракасмічнай навукова-тэхналагічнай карпарацыяй (КАНК), якой належыць карпарацыя Great Wall. Праектаванне РСЗА “Паланэз” і стварэнне вытворчай лініі для вырабу адпаведных ракет, відавочна, таксама ажыццяўлялася пры садзейнічанні іншай кампаніі, якая належыць КАНК, – «Sichuan Space Industry Corporation». Гэта быў першы выпадак, калі Мінск скарыстаўся паслугамі Кітая для запуску спадарожніка. Раней Беларусь рэалізоўвала свае касмічныя праекты з дапамогай Расіі.

Акрамя гэтага, Мінск праводзіць з Кітаем сумесныя вайсковыя вучэнні. У 2011–2015 гадах тры такія вучэнні былі праведзеныя на кітайскай і беларускай тэрыторыі.

---

[36] Игорь Тышкевич. Беларуский военторг в Украине: как Минск помогает Киеву отстроить мощную армию, *Хвиля*, 12 декабря 2015 года, http://hvylya.net/analytics/geopolitics/belaruskiy-voentorg-vukraine-kak-minsk-pomogaet-kievu-otstroit-moshhnuyu-armiyu.html

[37] Who’s the Secret Buyer of Ukraine’s ‘Grom’ Tactical Ballistic Missile System? *Sputnik News,* 07 August 2016, http://sputniknews.com/military/20160807/1044029566/grom-ballistic-missile-system-analysis.html

## 5. Магчымая будучыня беларускага нейтралітэту і шляхі яго развіцця

Беларусь пачала актыўна ажыццяўляць канстытуцыйнае палажэнне аб нейтралітэце. Гэта не азначае аўтаматычнага прыняцця гэтага нейтралітэту іншымі дзяржава, хаця менавіта ад такога прыняцця ў значнай ступені залежыць паспяховае фармаванне беларускага нейтралітэту. У разуменні многіх расійскіх палітыкаў Беларусь можа быць або на баку Масквы па ўсіх і кожным пытанні, або супраць яе. Для іх Беларусь проста не можа быць саюзнікам са сваёй уласнай пазіцыяй па некаторых пытаннях, нават калі гэта нейтральная пазіцыя, якая не супярэчыць расійскай палітыцы. Яшчэ большай праблемай для Расіі з'яўляецца беларускі нейтралітэт у галіне знешняй палітыкі і абароны.

Гэта не дзівіць, улічваючы важнасць Беларусі для бяспекі Расіі і падазрэнні Расіі адносна таго, што нейтралітэт будзе выкарыстоўвацца толькі як прыкрыццё для дрэйфу краіны ў бок Захаду. У гісторыі постсавецкіх краін ёсць некалькі прыкладаў інструменталізацыі нейтралітэту для такога дрэйфу – сапраўднага або інтэрпрэтаванага ў Крамлі такім чынам (*гл. першую частку даследавання*).

Непрыняццё больш нейтральнай беларускай пазіцыі здаецца паўсюдным у Расіі. Напрыклад, у кастрычніку 2015 года Максім Юсін пісаў у ліберальным штодзённіку "Камерсант", што на перамовах з Масквой Лукашэнка адчуваў сябе як ніколі ўпэўнена. Мінск праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку, а замежныя дзяржавы змагаюцца за ўплыў на Беларусь. Паводле Юсіна, падобную палітыку балансавання паміж Расіяй і Захадам праводзіў украінскі прэзідэнт Віктар Януковіч да яго зрынання ў 2014 годзе. Журналіст хіліць жа таго, што такая ж доля можа спасцігнуць беларускага лідара.[38]

Расійскія правыя СМІ крытыкуюць беларускі нейтралітэт яшчэ больш жорстка. Напрыклад, пасля таго, як Беларусь адмовілася падтрымаць Расію ў яе канфлікце з Турэччынай, інтэрнэт-выданне «Eurasia Daily» пракаментавала гэта ў снежні 2015 года так: «Беларускі нейтралітэт – гэта крывадушнасць на пралітай крыві [*людзей ва Ўкраіне і расійскіх салдат, якія загінулі ў Сірыі*]".[39] Потым Крэмль адрэагаваў нават яшчэ больш адкрыта. Расійскі палітычны аглядальнік Яўген Сатаноўскі напісаў артыкул у Eurasia Daily, абвінаваціўшы Мінск у тым, што той цішком грае супраць расійскай палітыкі ў Сірыі. Ён уключыў Беларусь у "Садружнасць udараў у спіну" разам з такімі тыповымі апанентамі Масквы, як Катар, ААЭ і Турэччына.[40] Сатаноўскі, які змяніў ампулуа аналітыка па Блізкім Усходзе на імідж каментатара па ўсіх палітычных пытаннях, выступае ў якасці рупара прынамсі нейкай часткі расійскага рэжыму.

У разуменні многіх расійскіх палітыкаў Беларусь можа быць або на баку Масквы па ўсіх і кожным пытанні, або супраць яе

Аднак праблема ў тым, што беларускі нейтралітэт не прымаецца і нават не прызнаецца як такі і іншымі партнёрамі краіны, у тым ліку на Захадзе. Прыкладам могуць быць рэакцыі нямецкіх палітыкаў і экспертаў да ўзнікненння элементаў нейтралітэту ў палітыцы беларускага ўрада.

У кастрычніку 2015 года Андрэй Дынько сведчыў, што нямецкія палітыкі, эксперты і чыноўнікі аднадушныя ў сваім недаверы знешнепалітычным ініцыятывам Лукашэнка [*, якія на той момант засноўваліся на элементах нейтралітэту*] і лічаць, што Крэмль можа навязаць Беларусі любое рашэнне,

[38] Максим Юсин. В торге с Москвой Лукашенко чувствует себя как никогда уверенно, *Коммерсантъ FM*, 15 октября 2015 года, http://www.kommersant.ru/doc/2832493

[39] Павел Юринцев. «Нейтралитет» Белоруссии – лицемерие на крови, *Eurasia Daily*, 9 декабря 2015 года, https://eadaily.com/ru/news/2015/12/09/neytralitet-belorussii-licemerie-na-krovi

[40] Евгений Сатановский. Содружество ударов в спину, *Военно-промышленный курьер*, № 46 (612), 2 декабря 2015 года, http://vpk-news.ru/articles/28275

у тым ліку стварэнне авіябазы.[41] Падобны скептыцызм выказаў эксперт Фонду імя Конрада Адэнаўэра Вольфганг Зэндэр. На канферэнцыі ў маі 2016 года ён падтрымаў імкненне Мінска да палітыкі шматвектарнасці, але адразу ж выказаў сваю цвёрдую ўпэўненасць у тым, што "рана ці позна Беларусь апынецца ў сітуацыі, калі яна будзе вымушаная стаць на той ці іншы бок".[42]

Афіцыйныя асобы суседніх краін часта згаджаюцца з гэтай думкай. 8 ліпеня 2016 года міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус заявіў: "Аб'ектыўна Беларусь мусіць успрымацца як адно цэлае з Расіяй. Беларусь прымала самастойныя рашэнні па некаторых пытаннях, аднак наша ўспрыняццё не змянілася".[43]

Мінск ужо паспяхова дыстанцыяваўся ад рызыкоўных задумаў Расіі і іншых краін у міжнароднай палітыцы, спасылаючыся на міжнароднае права

Нягледзячы ні на што, нейтралітэт стаў справай, за якую гатовая змагацца, прынамсі значная частка беларускай эліты, у тым ліку людзі, якія сёння адказваюць за кіраванне дзяржавай. Лукашэнка і іншыя беларускія чыноўнікі дэманструюць, што Беларусь адмаўляецца падтрымаць тыя палітычныя захады Пуціна, якія ўжо ўцягнулі Расію ў палітычную і ваенную канфрантацыю з цэлым шэрагам краін. З практычнага пункту гледжання, не мае значэння, на аснове якіх поглядаў – этычных і маральных ці прагматычных – яны супрацьстаяць гэтай палітыцы Крамля.

Верагодна, беларускае кіраўніцтва, лічыць гэтую палітыку Крамля безнадзейнай і асуджанай на правал. Лукашэнка пасмяяўся з "гістарычных прэтэнзіяў" Расіі на Крым, сказаўшы, што ў такім выпадку патрэбна аддаць Манголіі большую частку Еўразіі, у тым ліку Расію, бо гістарычна манголы таксама валодалі гэтымі землямі.[44]

Як зазначае палітычны каментатар Валер Карбалевіч, пасля таго як Расія пасварылася з Турэччынай у лістападзе 2015 года, "Расія, якая была крыніцай падтрымкі [для беларускага ўрада], ператварылася ў крыніцу праблем. Прыйшоў час адвяслоўваць ад гэтага [пуцінскага] "Тытаніка".[45]

Гэта будзе няпростай задачай, улічваючы тую незаменную ролю, якую грае Расія для беларускай эканомікі. Тым не менш, гэта магчыма. Мінск ужо паспяхова дыстанцыяваўся ад рызыкоўных задумаў Расіі і іншых краін у міжнароднай палітыцы, спасылаючыся на міжнароднае права. Прыкладам, Беларусь не прызнала законнасці шэрагу палітычных праектаў, некаторыя з якіх падтрымліваліся Расіяй, у тым ліку аддзялення Косава, Паўднёвай Асетыі, Абхазіі, Крыма (хай сабе і з агаворкамі) і Карабаха якраз спасылаючыся на міжнароднае права.

Але і без спасылак на міжнароднае права, Беларусь таксама паслядоўна дыстанцыявалася ад іншых значных расійскіх знешнепалітычных крокаў: не толькі ў такіх аддаленых мясцінах, як Блізкі Усход, але і ва Ўсходняй Еўропе, дзе Мінск імкнецца захаваць добрыя адносіны з Украінай і аднавіць добрыя стасункі з Захадам.

На дадзены момант беларускі нейтралітэт па-ранейшаму вельмі абмежаваны, і Крэмль захоўвае значны ўплыў у краіне. Але калі Беларусь здолее асцярожна дыстанцыявацца ад палітыкі Пуціна, змяняючы сваю палітэканамічную базу ў

---

41 Андрэй Дынько. З пачутага ў Берліне: «Мы Лукашэнку не давяраем», а авіябазу лічаць вырашанай справай, *Наша Ніва*, 17 кастрычніка 2015 года, http://nn.by/?c=ar&i=158272

42 Павлюк Быковский. Минский диалог: кому выгодна белорусская многовекторность, *Deutsche Welle*, 06 мая 2016 года, http://tinyurl.com/jyxvb94

43 Глава МИД Литвы: НАТО не считает Беларусь угрозой, но видит ее как одно целое с Россией, *TUT.BY*, 8 июля 2016 года, http://news.tut.by/politics/503736.html

44 Лукашенко: Если Крым – это Россия, то Россия – это Монголия, *День*, 9 октября 2014 года, http://day.kyiv.ua/ru/news/091014-lukashenko-esli-krym-eto-rossiya-rossiya-eto-mongoliya

45 Валер Карбалевіч. Расея без саюзьнікаў, *Радыё Свабода*, 07 жніўня 2014 года, http://www.svaboda.org/a/26518099.html

напрамку дыверсіфікацыі і развіваючы належныя адносіны з Расіяй і Захадам, яна можа стаць нейтральнай.

Фінляндыя пасля Другой сусветнай вайны здолела пабудаваць нейтралітэт не ў ідэнтычных, але ў параўнальных умовах жорсткага савецкага кантролю. Фінскія ўлады старанна пазбягалі канфрантацыі з Масквой, прымалі законныя інтарэсы СССР і адначасова з гэтым будавалі ўласную краіну ды паступова развівалі ўсё больш незалежную і нейтральную палітыку. Беларусь магла б зрабіць тое самае.

У апошнія гады Мінск ужо ішоў гэтым шляхам. Напрыклад, ён імкнуўся знайсці сярэдні шлях паміж Расіяй і яе шматлікімі супернікамі на Захадзе, былымі краінамі Савецкага Саюза або Блізкага Усходу. Але ён таксама прызнаў жыццёва важныя інтарэсы Расіі, якія беларускі ўрад лічыць абгрунтаванымі і, напрыклад, працягвае ўдзельнічаць у Адзінай сістэме СПА.

Бясспрэчна, для рэалізацыі мадэлі нейтралітэту беларускаму ўраду патрэбна вырашыць некалькі складаных задач. Перш за ўсё, неабходна забяспечыць прызнанне беларускага нейтралітэту з боку замежных партнёраў, у першую чаргу Расіі. Для гэтага Мінск павінен даказаць, што ягоны нейтралітэт не скончыцца тым, што Беларусь зойме празаходнюю і антырасійскую пазіцыю.

Іншымі словамі, нейтралітэт Беларусі павінен быць прымальным для Масквы. Гэта азначае разумнае самаабмежаванне для беларускай знешняй палітыкі і палітыкі нацыянальнай бяспекі, а таксама разумнае самаабмежаванне ва ўнутранай палітычнай дыскусіі. Такая палітыка можа быць паспяховай і быць прынятай Расіяй і іншымі краінамі толькі тады, калі яна будзе падтрымлівацца вельмі шырокімі групамі беларускага грамадства.

Такая палітыка можа аказацца папулярнай сярод большасці насельніцтва. На жаль, падчас апытанняў грамадскай думкі людзей, як правіла, апытваных просяць выбраць толькі паміж Расіяй (еўразійская інтэграцыя) і Захадам (Еўропа, ЕС, АПАД) або пытанне ставіцца ў іншай форме, якая скажае колькасць тых, хто падтрымлівае варыянт нейтралітэту для Беларусі. Аднак нават без паўнавартаснага абмеркавання варыянта нейтралітэту ў апытанні грамадскай думкі, праведзеным восенню 2014 года, каля 20 адсоткаў беларусаў выбралі нейтралітэт ў якасці лепшай мадэлі арыентацыі беларускай знешняй палітыкі, у той час як дзесяць адсоткаў аддалі перавагу далучэнню да ЕС, і 30 адсоткаў падтрымалі ўдзел ў Еўразійскім эканамічным саюзе.[46] Нягледзячы на спрэчную фармулёўку пытання, лічбы паказваюць, што варыянт нейтралітэту з'яўляецца жыццяздольным варыянтам з пункту гледжання грамадскай падтрымкі. Адметна, што вынікі апытання былі абнародаваныя памочнікам прэзідэнта Кірылам Рудым: гэта можа сведчыць пра сур'ёзнае стаўленне беларускага да магчымасці развіцця нейтралітэту.

Але цяперашні беларускі ўрад не мае іншага выбару, акрамя як пераканаць шырэйшыя колы беларускай апазіцыі ў неабходнасці падтрымаць варыянт нейтралітэту

Тым не менш, большасць апазіцыі і СМІ, не залежных ад беларускага ўрада, а таксама звязаныя з імі супольнасці аналітыкаў на сённяшні дзень не гатовыя падтрымаць нейтралітэт. Асабліва неахвотна яны падтрымліваюць мадэль нейтралітэту, якая прадугледжвае цеснае ўзаемадзеянне з Расіяй (як гэта было ў фінскай мадэлі пасля Другой сусветнай вайны).

Праблема, праўдападобна, носіць усеагульны характар і не абмяжоўваецца толькі Беларуссю. Анягож усе іншыя варыянты знешняй палітыкі і нацыянальнай бяспекі, акрамя ўступлення ў АПАД (НАТО) і ЕС, былі адхіленыя кіроўнымі элітамі дзяржаў рэгіёна цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў, і Мінску будзе

[46] Памочнік Лукашэнкі: Страта беларускай мовы – адна з галоўных пагроз, *Еўрарадыё*, 17 кастрычніка 2014 года, http://euroradio.fm/pamochnik-lukashenki-strata-belaruskay-movy-adna-z-galounyh-pagroz

вельмі цяжка змяніць гэты лад думак. Але цяперашні беларускі ўрад не мае іншага выбару, акрамя як пераканаць шырэйшыя колы беларускай апазіцыі ў неабходнасці падтрымаць варыянт нейтралітэту. Ён здолее зрабіць гэта толькі калі палітычны рэжым стане больш плюралістычным і ўсеахопным (інклюзіўным), а канструктыўныя сілы апазіцыі будуць браць удзел у кіраванні краінай.

Шырэйшая грамадская падтрымка нейтралітэту неабходная, сярод іншага, і для таго, каб пераканаць Расію, што нейтралітэт – гэта сапраўдная мэта ўсіх асноўных палітычных сілаў Беларусі. У адваротным выпадку існуе надзвычай высокая рызыка – калі не абсалютная пэўнасць, – што Расія будзе ўспрымаць беларускі нейтралітэт як канцэпцыю, якую падтрымлівае толькі нейкая асобная палітычная групоўка і якая будзе адразу адкінутая Мінскам як толькі расстаноўка сіл ва ўнутранай беларускай палітыцы зменіцца.

Каб пераканаць Расію ў сапраўднасці і шчырасці беларускага нейтралітэту, Мінску патрэбны вайсковы патэнцыял, які б гарантаваў, што бяспека Расіі не будзе пастаўленая пад пагрозу з-за слабасці Беларусі

Гэтаксама, каб пераканаць Расію ў сапраўднасці і шчырасці беларускага нейтралітэту, Мінску патрэбны вайсковы патэнцыял, які б гарантаваў, што бяспека Расіі не будзе пастаўленая пад пагрозу з-за слабасці Беларусі або з выкарыстаннем беларускай тэрыторыі. Для гэтага Беларусі патрэбныя больш эфектыўныя і развітыя ўзброеныя сілы. Акрамя таго, Мінск павінен звярнуць увагу на расійскія патрэбы і чуллівыя месцы ў галіне бяспекі пры фармаванні такіх ўзброеных сіл, напрыклад, разбудаваўшы належную сістэму супрацьпаветранай абароны. Нават калі Мінск выканае ўсе гэтыя ўмовы, хутчэй за ўсё, Расія будзе настойваць на нейкім рэзервовым механізме прамога расійскага ваеннага ўмяшання ў выпадку, калі беларуская армія не зможа спыніць агрэсію, якая будзе пагражаць Расіі.

Ці такія механізмы, самаабмежаванне і асцярожнасць падрываюць нейтралітэт і могуць патэнцыйна знішчыць беларускую незалежнасць? Такая верагоднасць існуе. Аднак, як паказаў досвед Фінляндыі, гэтая мадэль дазволіла Фінляндыі не толькі выжыць, але і наладзіць выдатныя стасункі з Савецкім Саюзам і дасягнуць поспехаў у развіцці.

# 6. Падсумаванне

Як жа лепш ахарактарызаваць беларускую знешнюю палітыку? Праз такія паняткі як рост нейтралітэту або размякчэнне сферы расейскага ўплыву? Ці беларускі нейтралітэт – гэта ўвогуле толькі нейкая мімалётная з’ява, ці, наадварот, мадэль выжывання беларускай дзяржавы, якая выпрацоўваецца на нашых вачах? Ці гэта простая рэакцыя на вонкавае ўздзеянне ці цвёрды прынцып беларускіх уладаў, які, нарэшце, увасабляецца ў жыццё на трэцім дзесяцігоддзі незалежнасці? Дадзенае даследаванне не дае канчатковых адказаў на ўсе гэтыя пытанні, але спадзяецца зрабіць свой унёсак у новыя аналізы і дыскусіі па гэтай праблеме.

Пры ўсім дарэчным скептыцызме, варта зазначыць, што ў беларускай знешняй палітыцы і палітыцы нацыянальнай бяспекі прысутнічаюць кампаненты, якія могуць разглядацца як імаверныя элементы нейтралітэту. Найперш знешняя палітыка дэманструе мноства праяваў гэтае з’явы на працягу мінулага дзесяцігоддзя. У пачатку 2010-х гадоў услед за ёй рушыла і палітыка нацыянальнай бяспекі, якая пачала змяняцца ў тым жа кірунку.

Беларускі нейтралітэт будуецца на сітуацыйных рашэннях, і таму церпіць ад часам адмоўнага асвятлення СМІ і кволай экспертнай падтрымкі. Але гэта можа быць і тактыкай беларускага ўрада, які пазбягае дакладнага вызначэння канцэпцыі, каб захаваць больш магчымасцяў для палітычнага манеўру.

Перспектывы беларускага нейтралітэту застаюцца няпэўнымі, бо ён па-ранейшаму не прызнаны як мае быць ані на Ўсходзе, ані на Захадзе. Ні Масква, ні Захад, ні суседнія дзяржавы, верагодна, не прымаюць беларускі нейтралітэт усур’ёз.

Тым не менш, у Беларусі можа не застацца іншага выйсця, акрамя як стаць нейтральнай дзяржавай. Беларускія эліты таксама бачаць, што быць саюзнікам Расіі становіцца ўсё больш рызыкоўна. У той жа час, улічваючы беларускае геаграфічнае становішча, палітэканамічную базу, культурныя і гістарычныя сувязі, Мінск не можа проста «дэзерціраваць» і далучыцца да празаходніх блокаў і арганізацый.

Нейтралітэт таксама можа быць падтрыманы большасцю беларусаў, у тым ліку значнымі сегментамі палітычных, эканамічных і культурных эліт краіны. Іншыя варыянты знешнепалітычнага выбару пагражаюць прывесці да ўнутранага палітычнага супрацьстаяння. Зважаючы на цяперашняе геапалітычнае становішча Беларусі і сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў краіне, якія бадай застануцца нязменнымі ў агляднай будучыні, нейтралітэт можа быць для беларускай дзяржавы адным з вельмі нямногіх спосабаў выжыць, забяспечыць развіццё і дамагчыся поспеху. Магчыма, нават найлепшым з іх.

# Пра аўтараў

**Сяргей Богдан** – асацыяваны аналітык Цэнтра Астрагорскага. Выпускнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, магістр гуманітарных навук Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Літве. Сяргей паходзіць з Маладзечна, Беларусь. Кантактны адрас: s.bohdan@ostrogorski.org.

**Гумер Ісаеў** – дацэнт універсітэта Сулейман Шах у Стамбуле, Турцыя, да яго закрыцця ў выніку палітычных праследаў, што пачаліся пасля спробы дзяржаўнага перавароту ў ліпені 2016 г. Магістр і кандыдат навук Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Расіі. Гумер паходзіць з Санкт-Пецярбурга, Расія. Кантактны адрас: gisaev@gmail.com.

# Цэнтр Астрагорскага

Цэнтр Астрагорскага – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца аналізам праблем, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра носіць беспартыйны характар і накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Аналітыкі цэнтра, якія працуюць у Мінску, Кіеве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і тэхнічныя здольнасці, неабходныя для аналітыкі ў заходняй стылістыцы.

Місія Цэнтра Астрагорскага – садзейнічаць лепшаму разуменню пераходных працэсаў у Беларусі і вучыцца на досведзе іншых краінаў. Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама будзе спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародныя навуковыя супольнасці.

Інтэрнэт-старонка Цэнтра Астрагорскага – www.ostrogorski.org.

